ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# Саветы Беларусі




ШТОМЕСЯЧНЫ ЧАСОПІС ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ



№ 5–6

(19–20)

ТРЭЦІ ГОД ВЫДАНЬНЯ

МАЙ—ЧЭРВЕНЬ 1930 г.

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

Штомесячны часопіс прэзыдыуму ЦВК БССР па савецкім будаўніцтве

№ 5-6 (19—20) Май—чэрвень 1930 г. № 5—6 (19—20)


## За ліквідацыю акруг. За ўмацаваньне раёнаў

Ва ўмовах вялізарных зрухаў, якія адбываюцца ў вёсцы ў гэтай надзвычайна цяжкай і складанай рабоце па перабудове распыленай, дробнай сельскай гаспадаркі на калектыўных падставах, па каапэраваньні сялянскай гаспадаркі і стварэньні моцных калгасаў, пытаньне аб якасьці работы нізавых органаў савецкай улады набывае асабліва важнае значэньне.

Яшчэ XVI партыйная канфэрэнцыя прызнала, што „раён—узлавы пункт, што ў раён неабходна перанесьці цэнтр цяжкасьці работы па палепшаньні дзяржаўнага апарату".

У той-ж час узрост гарадоў, павышэньне культурна-палітычнага ўзроўню рабочых мас патрабуе усямернай актывізацыі і палепшаньня работы гарсаветаў, ініцыятывы, якія да гэтага часу былі усё-ж у значнай ступені абмяжованы апекай акруговых органаў і перш за ўсё акруговых выканаўчых камітэтаў.

Зараз партыя на XVI партзьезьдзе вырашае пытаньне аб ліквідацыі акругаў, такім чынам маючы на ўвазе замацаваць раённы апарат і нізавы апарат сельсавету.

Шмат каму здаецца, што акругі пасьля раёнаваньня зусім сябе не апраўдалі і таму яны зараз ліквідуюцца. Зразумела, гэта ня так.

Тав. Сталін на адбываючымся партыйным зьезьдзе ў дакладзе—палітычнай справаздачы дзейнасьці ЦК Усе КП(б) сказаў: „Зразумела, акругі трэба ліквідаваць, але было-б памылкаю думаць, што гэтая акалічнасьць дае нам права ахаіваць акругі, як гэта дапушчаюць некаторыя таварышы на старонках „Праўды". Ня трэба забываць, што акругі вынясьлі на сваіх плячох вялізарнейшую работу і адыгралі ў свой час вялізарную гістарычную ролю.

Аднак, на даным этапе сацыялістычнага будаўніцтва неабходна прызнаць, што сучаснае становішча раённага апарату і сельсавету ні ў якай меры не забясьпечваюць выкананьня імі тых досыць складаных задач (якія ўскладаюцца на іх) ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва і асабліва ў галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Лепшым сьцьверджаньнем слабасьці нізавых органаў зьяўляецца той факт, што ніводная важнейшая гаспадарча-палітычная кампанія (перавыбары саветаў, хлебазагатоўкі, калектывізацыя, пасеўная кампанія, і г. д.) не абыходзіліся без пасылкі з цэнтру і акругі агромністай колькасьці ўпаўнаважаных у раёны і вёскі.

Зразумела, што перасоўка работнікаў з цэнтральных органаў на найбольш важныя вучасткі работы, у найбольш баявую хвіліну мела і будзе мець вельмі важнае значэньне. Але, з гэтага зусім не вынікае, што трэба прызнаць правільным і нармальным становішча, калі пасылка ўпаўнаважаных пераходзіць у сыстэму, калі ўся адказнасьць з нізавых органаў гэтым самым здымаецца і перакладаецца на прадстаўнікоў акруг і работнікаў цэнтральнага апарату.

Неабходна дабіцца рашучага ўмацаваньня раёну і вёскі работнікамі, павялічыць правы раённых выканаўчых камітэтаў і сельскіх саветаў, павысіць іх адказнасьць. У напрамку вырашэньня

гэтых задач і вынесена рашэньне ЦК аб ліквідацыі акруг, якое ўносіцца на зацьверджаньне XVI партзьезду.

Вопыт 6-ці акруг па СССР у тым ліку і Віцебскай паказальнай акругі ў БССР, у якіх былі значна замацаваны роля, правы і абавязкі раённых і сельскіх саветаў і адпаведна з гэтым (быў скарочаны) шэраг функцый і правоў гэтых акруг былі перададзены раёнам, гарсаветам і с-с і аднак гэты вопыт у працягу году паказаў, што такім шляхам можна дабіцца ўмацаваньня нізавых органаў (людзьмі) работнікамі, павышэньня матар'яльнай забясьпечанасьці нізавых работнікаў, уздыму аўтарытэту і належнага ўплыву раённых савецкіх органаў і сельсаветаў на рэканструкцыйныя працэсы сельскай гаспадаркі. Але гэтыжа вопыт адначасова паказаў, што нельга абмяжоўвацца рашэньнем пытаньня на палову, што неабходна радыкальная рэформа—ліквідацыя акруговага зьвяна ва ўсёй савецкай сыстэме.

Пастанова ЦК УсеКП(б) аб ліквідацыі акруг і максымальным умацаваньні на гэтай глебе раёнаў вырашае пастаўленыя пытаньні аб сапраўдным палепшаньні работы нізавых зьвеньняў савецкага апарату і максымальным замацаваньні перш за ўсё іх бюджэту, як матар'яльнай базы, на якой і магчыма разгарнуць усю дзейнасьць саветаў на мясцох.

Бясспрэчна, што пытаньне аб сапраўдным умацаваньні нізавога савецкага апарату, наданьне нізавым бюджэтам поўнай фінансавай самастойнасьці, перакідкі ўніз работнікаў з акруг, рашучага палепшаньня масавай работы, далейшага разгортваньня на гэтай базе калгаснага будаўніцтва і ліквідацыя кулацтва, як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі ўпіраліся ў існуючую сыстэму пабудовы савецкага апарату. І таму гэтае рашэньне ЦК УсеКП(б) аб ліквідацыі акруг зьяўляецца самай радыкальнай мерай сапраўднага палепшаньня становішча раённага і сельскага дзяржаўнага апарату. Ніякія іншыя мерапрыемствы, ці полумеры, як-та: пераразьмеркаваньне сродкаў і людзей паміж існуючымі зьвеньнямі савецкага апарату не вырашаюць пытаньня аб умацаваньні нізавых саветаў з такой паўнатой і пасьлядоўнасьцю, як гэта зроблена рашэньнем ЦК аб ліквідацыі акруг—рашэньнем, якое мае вялізарнае палітычнае і практычнае значэньне.

Што канкрэтна дасьць у нашых умовах ліквідацыя акруговага зьвяна?

1) Яна прывядзе да зьнішчэньня лішняга, ужо аджыўшага на гэтым этапе сацыялістычнага будаўніцтва, акруговага зьвяна. Зараз акруга ня можа адыгрываць кіруючую гаспадарчую ролю. Больш буйная прамысловасьць знаходзіцца пад загадам цэнтральных рэспубліканскіх гаспадарчых органаў; дробная-ж знаходзіцца і павінна знаходзіцца пад загадам гарсавету і райвыканкому.

Тэзісы дакладаў тав. **Якаўлева** прапануюць ліквідаваць акруговае зьвяно між-калгасных аб'яднаньняў. Цэнтрасаюз прыняў рашэньне аб ліквідацыі акруговых саюзаў спажывецкай каапэрацыі. Такое-ж рашэньне прынята па лініі сельска-гаспадарчай каапэрацыі. Існуючыя акругі, як перадатачныя пункты паміж раёнам і цэнтрам, становяцца непатрэбнымі.

2) Ліквідацыя акруг дае мажлівасьць накіраваць з акруг у нізавыя савецкія органы па ўсяму Савецкаму Саюзу каля 100.000 работнікаў і дасьць эканомію ад ліквідацыі акруг 200 млн. рублёў, што можа быць і павінна быць скарыстана на павышэньне аплаты работнікаў нізавых савецкіх органаў.

3) Перасоўка людзей з акруг у раёны дасьць мажлівасьць зрабіць перасоўку людзей, таксама і ў вёску—калгасы і саўгасы, на гаспадарчую і каапэрацыйную работу.

4) Гэтаю рэформаю будзе значна ўзмоцнена роля гарсаветаў як самастойных кіруючых органаў, якія павінны больш увагі зьвярнуць на гаспадарчае, культурнае будаўніцтва ў гарадох і асабліва на выкананьне прамфінпляну, як асноўнага сродку выкананьня ўсяго пяцігадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва.

5) Будзе значна павялічана кола функцый раённых і сельскіх саветаў, будзе значна ўзмоцнены раённы бюджэт і канчаткова паўсямесна створаны і аформлены сельскія бюджэты ва ўсіх сельскіх саветах.

Бясспрэчна, што аднэй з рашаючых умоў пасьпяховай перабудовы работы нізавых саветаў, павароту іх дзейнасьці тварам да калгаснага руху, шырокага разгортваньня масавай работы ў вёсцы зьяўляецца замацаваньне фінансава-гаспадарчай базы раённых выканаўчых камітэтаў, сельскіх і местачковых саветаў шляхам максымальна магчымага замацаваньня за імі цьвёрдых прыбытковых крыніц і пашырэньне іх бюджэтных правоў.

6) Ліквідацыя акруг значна павысіць адказнасьць цэнтральных органаў, за практычную работу, палепшыць непасрэдную іх сувязь з узлавымі пунктамі —раёнамі, дапаможа палепшыць кіраўніцтва, зрабіць кіраўніцтва больш канкрэтным і непасрэдным.

Замацаваньне фінансавай базы нізавых саветаў, перабудова, палепшаньне іх работы на базе замацаванага бюджэту зьяўляецца важнейшым пытаньнем дню, не дапускаючых ніякіх адтэрмінаваньняў.

Складаныя задачы, якія стаяць перад нізавымі саветамі ў справе сацыялістычнай перабудовы вёскі, яе калектывізацыі і ліквідацыя ў раёнах суцэльнай калектывізацыі кулацтва як клясы, узьнімаць ролю і адказнасьць нізавых саветаў у справе чоткага правядзеньня лініі партыі ў вёсцы.

Такія агульныя матывы і задачы, якія вынікаюць з пастаноўкі пытаньня аб ліквідацыі акруг.

Ліквідацыя акруг бясспрэчна насьпела. Гэту ліквідацыю неабходна правесьці ў бліжэйшы час, ніяк не пазьней як да новага бюджэтнага году.

Разам з гэтым неабходна рашуча перамагчы ўсе цяжкасьці і ўсе мажлівыя спробы перашкодзіць правядзенью гэтай рэарганізацыі, прасоўваньню работнікаў з акруг у нізавыя савецкія органы.

Неабходна зараз-жа паклапаціцца аб тым, каб новы гаспадарчы год раённыя выканаўчыя камітэты, сельскія і местачковыя саветы сустрэлі з новым узросшым замацаваўшымся бюджэтам, новымі кадрамі і новымі правамі і абавязкамі.

Гэта бясспрэчна палепшыць кіраўніцтва і практыку вырашэньня пытаньня па сацыялістычнай перабудове вёскі.

Зразумела, што да тае пары пакуль ня будзе практычна вырашана пытаньне аб ліквідацыі акруг, пакуль гэта справа ня стане адбыўшымся фактам, да таго пакуль ня будуць дадзены адпаведныя тэрміны і паказаньні аб парадку канчатковай ліквідацыі акруг, уся адказнасьць за становішча і працу ў акругах, за правядзеньне важнейшых кампаній застаецца за акруговымі савецкімі і грамадзкімі арганізацыямі.

Ужо зараз узьнікаючым дэмабілізацыйным настроям акруговых работнікаў і цэлых акруговых устаноў і арганізацый трэба даць рашучы адпор.

А. Хацкевіч.

---

# Вопыт рэарганізацыі Віцебскай акругі

## (Напярэдадні ліквідацыі акруговых зьвеньняў)

Пастанова XVI Зьезду аб ліквідацыі акругоў не зьявілася нечаканай. Яе сустрэлі з вялікім задавальненьнем. I ня дзіва. Усякаму, хто на практыцы сустракаўся з работай нізавых савецкіх органаў, даўно ужо было яскрава бачна, што нізавыя органы павінны быць значна ўзмоцнены, каб стаць сапраўднымі органамі пролетарскай дыктатуры на вёсцы. Само узьнікнавеньне апартуністычнай ідэі ліквідацыі с-саветаў тлумачыцца часткова большасьці малой роляю с-саветаў у гаспадарчай працы на вёсцы, у прыватнасьці ў калектывізацыі, а таксама перавагай у с-саветах адміністрацыйнай працы.

ЦК, XVI Зьезд і ўся партыя выказаліся не за зьліквідаваньне с-саветаў, ацаніўшы гэтую тэндэнцыю як шкодную і апартуністычную, а наадварот—за ўзмацненьне с-саветаў, за пашырэньне іх праў, абавязкаў і матар‘яльнай базы за кошт акруговых зьвеньняў.

Ці патрэбна ісьці так далёка? Ці ня

было-б досыць тэй рэарганізацыі, якая была праведзена ў вопытна-паказальных акругах, якая заключалася ў частковай перадачы—толькі апэрацыйнай працы—ў раёны і с-с пры застаўленьні ў акругах функцый кантролю і плянаваньня?

Гэта пытаньне вельмі важнае і адказаць на яго можна толькі вывучыўшы вынікі рэарганізацыі вопытна-паказальных акруг.

У нас, у БССР, маецца вопыт Віцебскай акругі, вельмі каштоўны для правядзеньня працы па ліквідацыі акруг.

### Як акруга рэарганізавалася

Рэарганізацыя Віцебскай акругі пачалася ў кастрычніку месяцы 1929 году. У сьнежні месяцы яна ўжо была скончана. Згодна гэтай рэарганізацыі былі зьліквідаваны аддзелы: фінансавы, сацзабясьпекі і інш., замест якіх быў устаноўлены інстытут інспэктароў пры АВК, задачай якога было ажыцьцяўленьне кантролю над работай нізавых органаў. Для плянава-статыстычнай работы было арганізавана—Плян—статБюро. Аднак, ужо ў хуткім часе выявіўся значны паралелізм і разнабой у працы інспэктароў, бо Прэзыдыум АВК не спраўляўся з справай каардыніраваньня іх працы.

16 мая г-г Прэзыдыум АВК пастанавіў зноў перабудаваць працу па схэме груп. Згодна гэтай схемы ўвесь апарат АВК разьбіваецца на 11 груп (сельскай і лясной гаспадаркі, сацыяльнай культуры і працы, абмену і фінансаў, плянавае бюро і г. д.), на чале якіх стаяць паасобныя члены Прэзыдыуму АВК.

Аднак, і гэтая новая форма ня ўнесла неабходнай чоткасьці ў працы.

Першае: Статыстыка пры новай форме была разьбіта па паасобных групах. Гэта, праўда, наблізіла статыстыку да функцый кантролю (інспэктароў), але не устраніла перабою і пералелізму, які асабліва адчуваюць раёны. Ад раёнаў статыстычнае даныя цяпер патрабуюць усе групы. Плян распрацовак па статыстыцы, разасланы па раёнам, складаецца з 200 пунктаў на 20 старонках. У апараце АВК маецца 40 статыстыкаў вышэйшай і ніжэйшай кваліфікацыі, акрамя эканамістаў па статыстыцы і бухгальтэроў, а ў раёнах амаль няма ніводнага кваліфікаванага статыстыка, які-б здавальняюча распрацаваў ня 200, а хаця-б 2—3 з гэтых пытаньняў.

Па-другое: у апараце АВК маецца да гэтага часу шмат лішніх адзінак. Напрыклад, у АВК пры наяўнасьці НацКамісіі, якая павінна кантраляваць нацпрацу, маюцца яшчэ 3 націнспэктары. Чамусьці маюцца два паасобных інспэктара па насенаводзтву і льноводзтву. Зусім незразумела, што рабіць у групе аргмасавай работы рацыяналізатару па тэхніцы кіраўніцтвам, інспэктару па адміністрацыйным справам і г. д.

Па-трэцяе: арганізацыя апарату па групах фактычна прыводзіць да тых-жа аддзелаў, якія былі раней. На чале іх, як і раней, стаяць паасобныя сябры Прэзыдыуму АВК.

### Плянаваньне і кантроль

Ці палепшылася ў сувязі з рэарганізацыяй плянаваньне, кантроль і тым самым кіраўніцтва АВК?

Аб гэтым маюцца розныя думкі.

**НКАсьветы**, напрыклад, п і ш а: „Рэарганізацыя Віцебскай акругі ў паказальную, канкрэтных вынікаў у галіне НКАсьветы ня мае.

З ліквідацыяй Акрінспэктарыяту НК Асьветы і ўвядзеньнем функцыянальнай сыстэмы, каардыніраваньне і плянаваньне працы перайшло непасрэдна да акруговага выканаўчага камітэту, які ня здолеў гэтую працу сам і ня прыцягнуў адпаведных інспэктароў“.

**БелСельБанк** піша: „Цэлы шэраг дырэктыў па нашай лініі ў Віцебскай акрузе выконваліся горш, чым у іншых акругах.

Напрыклад, рэарганізацыя крэдытных т-ваў па Віцебскай акрузе праводзілася ненармальна і да гэтага часу няскончана. Справаздачныя матар'ялы атрымліваліся са значным спазьненьнем“.

**В С Н Г** таксама адзначае шэраг недахопаў у справе плянаваньня і кантролю мясцовай прамысловасьцю, як спазьненьне складаньня балянсаў, паслабленьне кіраўніцтва прадпрыемствамі, запушчанасьць справаводзтва па прадпрыем-

ствах, з якой прычыны нельга сачыць за выкананьнем прамфінпляну і г. д.

У выніку адзначаных недахопаў, у гэтых наркаматах маецца думка, што рэарганізацыя праведзена недастаткова, што трэба больш рашуча перайсьці на шлях зьліквідаваньня акруговых зьвеньняў.

Побач з гэтым іншыя наркаматы, як НКУС, ДзяржСтрах, НКФ лічылі, што вопыт Віцебскай акругі сябе поўнасьцю апраўдаў, але і гэтыя наркаматы лічылі патрэбным унесьці шэраг паправак, а НКФ лічыў неабходным прадоўжыць вопыт яшчэ на поўгода.

Не палепшыўся ў выніку рэарганізацыі і кантроль АВК. Інспэктары АВК у большай частцы не спраўляюцца з кантролем і замест таго, каб наладзіць жывое кіраўніцтва і кантроль, больш сядзяць у габінэтах: Аб адсутнічаньні кіраўніцтва з боку інспэктароў АВК заяўляюць і раёны.

Для характарыстыкі якасьці кіраўніцтва з боку акругі прывядзем наступныя два факты:

25 мая па сводцы НКЗемляробства Віцебская акруга засталася на апошнім месцы па пасеўнай кампаніі. АВК, замест таго каб пасіліць гэтую працу альбо прапанаваць раёнам праверыць даныя статыстыкі, тэлеграфіруе ва ўсе раёны:

„Зьвесткі с-с аб ходзе севу не адпавядаюць сапраўднасьці. Прапануецца раёнам сводку паставіць на абгаварэньне экспэртнай камісіі, якая павінна ўнесьці папраўку на недавучот. На падставе гэтага вылічыць разьмер засеўнай плошчы па культурам і сэктарам. Выпраўленую сводку прадставіць да 26 мая“.

Раёны, згодна гэтага загаду, „выправілі“ сваі зьвесткі. Напрыклад, Сенненскі РВК адразу-ж унёс папраўку на 5.000 га, а калі пазьней высьвятлілася адставаньне і па льну, дык ён унёс папраўку на 100 га і па ільну.

Акруговы **МалочСаюз** 10-VI накіроўвае ў Сенненскі раён такую адносіну:

„Накіроўваецца пры гэтым акт, складзены інструктарам Віцмалсаюзу Барсуковым аб наяўнасьці ў групы сялян в. Машчаны сепаратару № 1693271, якія маюць па 2 каровы і ўсё малако перарабляюць для базару, а таксама і сяляне носяць ім для перапрацоўкі малако. Віцакрмалсаюз просіць адабраць ад гэтай групы сялян паказаны сепаратар і за перапрацоўку прынасімага малака з боку аблажыць іх індывідуальным падаткам“.

Такія прапановы і загады не яўляюцца выключэньнем.

Такім чынам, пасьля перадачы функцый раёнам застаўляць акругу толькі для кантролю і плянаваньня ніякага сэнсу ня маецца.

### Узмацненьне нізавых апаратаў працаўнікамі

Застаўленьне акругі хаця-б толькі ў якасьці кантраліруючага і плянуючага органу перашкодзіла-б узмацненьню раёнаў і с-саветаў працаўнікамі. На першы погляд акруговы апарат Віцебскай акр. зьменшыўся вельмі значна. Да рэарганізацыі ў акруговым апараце было (уключая суд і адм'аддзел)—441 прац. адзінка. Пасьля рэарганізацыі іх засталося 236. Такім чынам, вызвалілася 205 чал. Але ў раёнах павялічэньне колькасьці працаўнікоў была далёка не такім значным, якім было зьмяншэньне ў акрузе, а імена, да рэарганізацыі ва ўсіх РВК было 420 працаўнікоў, а пасьля—478. Праўда, некаторыя працаўнікі заменены ў парадку ўзмацненьня. Але, па-першае, гэта ўзмацненьне было зроблена не за кошт Віцебскай акругі, а за кошт другіх акруг., што пры перанясеньні вопыту на іншыя акругі было-б немагчымым зрабіць. Падругое, гэта зроблена за кошт вылучэнцаў. Большасьць-жа акруговых працаўнікоў засталася ўсё-ж у акруговым цэнтры, альбо павыехала. Гэта палавінчатасьць рэформы і застаўленьне акругі перашкодзіла правесьці рашуча і рэарганізацыю раённага апарату. Калі мы параўнаем структуру апарату РВК Віцебскай акругі і якой-небудзь іншай акругі, дык мы ня знойдзем якіх-ліба значных зьмен. Зьмены былі чыста надворныя. Так, ва ўсіх раёнах маюцца старшыні РВК і Загад. Земчасткай. У раёнах Віцебскай акругі маецца старшыня і яго намесьнік, фактычна той-ж Загад. Земчасткай. Ва ўсіх раёнах маецца Загадчык фінчасткай і фініспэктар. У РВК Віцебскай акругі маецца інспэктар па сельска-гаспадарчаму падатку, а таксама валютны, якія выконваюць тое самае,

што і раней. Ва ўсіх раёнах маецца інспэктар асьветы і інспэктар палітасьветы. У раёнах Віцебскай акругі маюцца інспэктары сацвыху і інспэктары палітасьветы. Таксама і па іншых пасадах. Што тычыцца перабудовы працы работнікаў раёнаў па сыстэме адказных фукцыянэраў, то да гэтага часу гэта перабудова пакуль яшчэ дзейнічае толькі на паперы. Як і раней большая частка пытаньняў ўзгадняецца з старшынёй альбо яго намесьнікам.

Адзінсьцьвенна, што ёсьць новага ў РВК Віцебскай акругі ў параўнаньні з раёнамі іншых акруг—гэта арганізацыя статыстыкі. Аднак тут-та і сказываецца недастатковасьць рэарганізацыі акругі. У той час, як у АВК маецца звыш 40 статыстычных працаўнікоў, у раёнах кваліфікаваных працаўнікоў зусім няма, і РВК прыходзіцца высоўваць на гэту працу был. старш. міліцыянэраў, был. касіраў і г. д. Гэта адбіваецца на якасьці працы. Ніводная раённая статыстыка ня мела дакладных вестак аб пасеўнай кампаніі, а Сенненская статыстыка нават адмовіліся ад сваёй распрацоўкі па жывёлагадоўлі, так як лічбы „зусім ня адпавядалі супраўднасьці“.

Такім чынам, мы прыходзім да вынікаў, што застаўленьне акругі зводзіць рэарганізацыю раёнаў да мінімуму і не дае вынікаў у гэтай працы.

Але гэтага мала. Рэарганізацыя акругі ў тым выглядзе, як яна праведзена ў Віцебскай акрузе, яшчэ менш вырашае праблему аб кадрах для с-саветаў. С-саветы атрымалі яшчэ адну штатную адзінку—статыстыка. Больш буйныя с-саветы маюць і дзелаводаў. Але тут таксама пытаньне кадраў зводзіць „на нет“ усю рэформу. Склад працаўнікоў с-саветаў ў выніку рэарганізацыі не палепшыўся, а з гэтай прычыны не палепшылася і праца с-саветаў.

### Масавая работа ў с.-саветах, РВК і Гарсавеце

Адсутнічаньне рашучага зруху ў рабоце саветаў у выніку недастатковасьці, рэарганізацыі асабліва яскрава сказываецца на масавай рабоце нізавых савецкік органаў.

Пры ацэнцы вынікаў рэарганізацыі акругі мы маем права паставіць наступныя пытаньні: 1) Ці палепшыла рэарганізацыя акругі выкананьне прамфінпляну (масавую работу Гарсавета)?

2) Ці палепшыла рэарганізацыя работу РВК і с-с па калектывізацыі? 3) Ці палепшыла рэарганізацыя правядзеньне пасеўнай кампаніі? 4) Ці павялічыла рэарганізацыя уцягненьне насельніцтва ў работу саветаў?

Трэба прама сказаць, што ва ўсіх гэтых галоўных галінах працы мы яшчэ значных вынікаў ня маем.

*Правядзеньне прамфінпляну:* Процант выкананьня прамфінпляну за першае паўгодзьдзе па рэспубліканскай прамысловасьці будзе 95,5 проц. Сабекошт зьніжаны на 5,11 проц. супроць намечаных па пляну 9,34 проц. Процант браку павялічыўся. Напрыклад, па акулярнай ф-цы было за першы квартал 1,63 проц., а на студзень—4,21 проц. На Віцшвее было браку за першы квартал—1,14 проц., за студзень—2,21 проц., за люты — 4,04. На абутковай: за 1 квартал—3,35 проц., а ў лютым—7,43 проц.

Ці атрымалі усе гэтыя зьявішчы адлюстраваньне ў працы рэарганізаванага Гарсавету?

Калі і атрымалі, дык вельмі кязначнае. Праўда, Гарсавет правёў адно адчыненае пасяджэньне Прэзыдыуму на Віцшвее і адно пасяджэньне Пленуму на ф-цы „Дзьвіна“. Але галоўнае, што трэба было-б зрабіць—уцягнуць праз Гарсавет і яго сэкцыі саму рабочую масу ў палепшаньне выкананьня прамфінпляну ня было зроблена. Кіраўнікі Гарсавету не зацікавіліся пытаньнем нават, колькі членаў Гарсавету прымае ўдзел у сацспаборніцтве і ударных групах. Ніякай працы з гэтымі членамі Гарсавету не праводзілася. Праца большасьці сэкцый Гарсавету пастаўлена дрэнна і Прэзыдыум Гарсавету пастолькі мала цікавіцца іх працай, што ў канцэлярыі Гарсавету няма нават пратаколаў сэкцый. Ня дзіва пагэтаму, што сэкцыі скардзяцца на тое, што іх пастановы не рэалізуюцца і што зацікаўленасьць у рабоце сэкцый усе больш зьмяншаецца. Аб тым, што апошняе адпавядае сапраўднасьці, сьведчаць такія лічбы: 6-II-30 г. на Пленум фінансавай сэкцыі замест 22 чл. зьяўляецца—8, а 29-III—6; на Пленум сэкцыі з 37 членаў зьяўля-

юцца 25-I—16 чал., 6—III-11 ч., 9-III—11 чал, 29-IV—14 чал.

У дадатак да гэтага трэба адзначыць, што лік рабочых у сэкцыях вельмі нязначны. Напрыклад, у Сэкцыі РСІ—16 раб. і 33 служачых. У сэкцыі аховы здароўя—6 раб. і 17 служачых і г. д. Што тычыцца прымацаваных да сэкцыі, то сярод іх амаль зусім няма рабочых. Так, да прамысловай сэкцыі прымацавана ўсяго 3 рабочых. Да сэкцыі аховы здароўя—адзін. Да капэрацыйнай—ніводнага, хаця студэнтаў тут прымацавана цэлых 17 чал.

Чым тлумачыцца такая слабая праца Гарсавета?

Па-першае, тым што ўзмацненьне Гарсавета ішло за лік, галоўным чынам, тэхнічных працаўнікаў; па-другое, што Гарсавет усё яшчэ лічыць, што рэспубліканскай прамысловасьцю павінен цікавіцца АВК; па-трэцяе, што кантроль з боку АВК амаль адсутнічае.

*Праца па калектывізацыі*: Недастатковасьць вынікаў рэарганізацыі Віцебскай акр. асабліва выявілася ў працы па правядзеньню калектывізацыі. Тут, з аднаго боку, сказалася слабасьць кантролю з боку акругі, ня гледзячы на тое, што апэрацыйныя функцыі ад яе адыйшлі, а, з другога боку, недастатковае ўзмацненьне раёнаў працаўнікамі. Можна сьмела сказаць, што перагібы ў Віцебскай акрузе былі ня менш чым, у другіх акругах, а ў асобных раёнах нават большыя. Прыкладам можа служыць Гарадокскі раён, які быў калектывізаваны на 103 проц. (!!), а ў сучасны момант там засталося калектывізанымі 6,6 проц. двароў. Прыкладам можа служыць і Сенненскі раён, дзе ў шэрагу местачковых жыхароў пры высяленьні былі адабраны нават самавары, лямпы, лыжкі і г. д. У Сенненскім раёне (праўда, пры старым кіраўніцтве, але значна пазьней рэарганізацыі), мелі месца такія пастановы, як наступныя: „У выпадку разбазарваньня калгасьнікам маёмасьці выключыць з калгасу *бяз права надзяленьня зямлёю*“, альбо, з другога боку, пастанова аб уключэньні цэлай заможнай вёскі ў склад *саўгаса.* Але і ў сучасны момант кіраўніцтва калгасамі ў Віцебскай акрузе далёка ня лепш, чым у іншых акругах. Дзякуючы недастаковаму узмацненьню раёнаў працаўнікамі, РВК ня можа ахапіць дастатковым кіраўніцтвам калгасы, лік якіх павялічыўся, але сярод якіх маецца шмат дробных. З другога боку, РВК ня здолелі павярнуць у дастатковай ступені сельсаветы тварам да калгасаў. У выніку гэтага, пры агульным узмацненьні калгаснага руху, у паасобных калгасах маецца яшчэ шэраг недахопаў, як-та: ненармальныя ўзаемаадносіны з адзіналічнікамі, нават, беднякамі, замкнутасьць асобных калгасаў (нежаданьне прыймаць новых сяброў), выпадкі найму пастаяннай рабочай сілы, недастатковая організацыя працы ў колгасах і г. д. На ўсе гэтыя зьявішчы РВК не пасьпявае рэагаваць, а кантроль АВК вельмі слабы, каб дапамагчы ў гэтай справе.

*Правядзеньне пасеўнай кампаніі:* Ня гледзячы на налічча Плянстатбюро ў акрузе і статыстычных аддзелаў пры РВК, статыстычныя зьвесткі па пасеўнай кампаніі настолькі няточны, што сказаць, як Віцебская акруга правяла пасеўную кампанію, вельмі цяжка. Аднак, па цэламу шэрагу момантаў можна судзіць, што масавая арганізацыйная работа праведзена ня зусім здавальняюча. Па акрузе маецца недасеў тэхнічных культур. Ня было ўдзелена дастатковай ўвагі, як з боку акругі, так і з боку асобных раёнаў пытаньню абслугоўваньня адзіналічнага сэктару. Сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж калгасамі і ўнутры калгасаў было слаба разгорнута. І калі, як кажуць мясцовыя працаўнікі, пасеўная плошча, асобна, у калгасах і пашырылася, дык гэта-ж мы маем і ў большасьці калгасаў і нерэарганізаваных акруг.

*Уцягненьне насельніцтва ў работу саветаў:* Зусім ніякага амаль зруху ня маецца ў масавай рабоце с-саветаў. Як і да рэарганізацыі, камісіі не працуюць у пераважнай большасьці с-саветаў. У некаторых с-саветах (Вярхоўскі с-с, Бешанковіцкага раёну) яны нават не аформлены. Дырэктывы ўраду аб арганізацыі вытворчых нарад і бюро іх, а таксама бытавых камісій амаль ніводным с-саветам ня выкананы.

Сельбюджэт, які быў уведзены ва ўсіх с-саветах, значнага ўплыву на працу сельсаветаў ня меў, бо разьмер яго вельмі нязначны і складаецца ён амаль з адных толькі адлічэньняў ад сельска-гас-

падарчага падатку і датацыі з фонду рэгуляваньня.

Няма значнага зруху пасьля рэарганізацыі і ў працы з беднаты, хаця групы беднаты арганізаваны пры ўсіх с/саветах і наогул групы беднаты працуюць значна лепш, чым іншыя арганізацыі, асабліва лепш, чым камісіі. Але групы беднаты і раней працавалі лепш, чым камісіі і працуюць лепш і ў нерэарганізаваных акругах.

У галіне масавай працы сярод жанчын, значэньне якой так яскрава высьвятлілася пры правядзеньні калектывізацыі вясной гэтага году, раёны Віцебскай акругі, як гаворыцца, нічога не забылі, але нічаму не навучыліся. Бытавыя камісіі ня толькі не арганізаваны ў большасьці с/саветаў, але ня працуюць і ў РВК. Напрыклад, бытавая камісія пры Бешанковіцкім РВК, арганізаваная 17 жніўня 1929 г., ня мела да гэтага часу ніводнага пасяджэньня. Бытавая камісія Сенненскага РВК мела за час свайго існаваньня адно пасяджэньне. У Горавічскім жа с/с гэтага раёну ў складзе камісій па палепшаньню быту жанчын не ўвайшла ніводная жанчына. Працы з актывам жанчын ніякай не вядзецца.

Значным дасягненьнем зьяўляецца арганізацыя сельскіх судоў, якая сабе поўнасьцю апраўдала, але гэта, па-першае, не зьяўляецца асаблівасьцю Віцебскай акругі, а па-другое, сельскія суды яшчэ недастаткова скарыстоўваюцца для правядзеньня масавай работы.

### Што-ж дала рэарганізацыя Віцебскай акругі?

Гэтае пытаньне ўпаўне зразумела пасьля столь крытычна зробленага агляду працы акругі.

Ня гледзячы на ўсё вышэйпаказанае, вопыт рэарганізацыі Віцебскай акругі даў многае.

*Па-першае.* Ён паказаў, што раёны могуць безбалезьненна абыйсьціся без кіраўніцтва акругі. Кантроль і плянаваньне ў Віцебскай акрузе за гэтыя ½ года былі такімі, што можна сьмела сьцьвярджаць аб амаль поўнай самастойнасьці раёнаў. І калі праца раёнаў не пагоршылася ў параўнаньні з раёнамі нерэарганізаваных акруг, дык гэта ўжо зьяўляецца паказчыкам магчымасьці абыйсьціся без акруковых зьвеньняў.

*Па-другое.* У выніку рэарганізацыі раённы апарат значна наблізіўся да насельніцтва. Цэлы шэраг пытаньняў (зямельныя, фінансавыя, адміністрацыйныя і інш.), якія раней вырашаліся толькі ў АВК, а то і вышэй, цяпер вырашаюцца канчаткова ў раёне. Гэта значна паменшыла цяганіну і валакіту. Напрыклад, возьмем справу аб пасечках лесу, якія раней вырашаліся канчаткова толькі ў АВК, зямельныя спрэчкі, якія даходзілі да НКЗему і інш. Усе гэтыя справы зараз канчаткова вырашаюцца у РВК.

Аднак, вырашэньне усіх гэтых пытаньняў у РВК выклікае неабходнасьць узмацненьня мясцовых РСІ і большай самастойнасьці апошніх, каб селянін мог-бы на месцы абскардзіць рашэньне.

*Па-трэцяе.* Рэарганізацыя значна ўзмацніла матар'яльную базу РВК і ўтварыла самастойныя бюджэты ў с/саветах. У выніку рэарганізацыі раённы бюджэт павялічыўся на 56%, а сельскі на 15,25%. Аднак бюджэт с/саветаў усё яшчэ вельмі слабы.

*Па-чацьвертае.* Рэарганізацыя палепшыла матар'яльнае становішча раённых і часткова сельскіх працаўнікоў, чым утварыла большую зацікаўленасьць у працы.

*Па-пятае.* Рэарганізацыя дала некаторае, хаця і нязначнае, узмацненьне раёнаў працаўнікамі.

Аб чым сьведчыць усё апошняе? Яно гаворыць аб тым, што ліквідацыя акруг не наносячы ўрону ў сэнсе паслабленьня кантролю і плянаваньня, зможа даць значнае спрашчэньне апарату, памяншэньне валакіты, узмацненьне матар'яльнай базы і большую зацікаўленасьць працаўнікоў у працы. Усё гэта дае дастатковыя падставы і магчымасьці для ўзмацненьня ўсіх галін працы. Слабыя дасягненьні, якія маюцца зараз, і тлумачацца палавінчатасьцю рэарганізацыі.

### Задачы, узьнікаючыя пры ліквідацыі акруговых зьвеньняў

Вопыт рэарганізацыі Віцебскай акругі дае магчымасьць больш яскрава выявіць тыя задачы, якія ўзьнікаюць пры правядзеньні працы па ліквідацыі акруг.

Перш за ўсё прынцыповы бок:

1) Ці патрэбна ў БССР арганізоўваць вобласьці, альбо не? Наша думка, што вобласьці ў БССР непатрэбны. У сучасны момант па БССР маецца 100 раёнаў. Кіраўніцтва такім лікам раёнаў па сілах цэнтральным установам, пры суадпаведнай перабудове іх апаратаў.

2) Патрэбна вырашыць, якія дадатковыя права і функцыі будуць перададзены ў сельсаветы.

3) Асобную ўвагу патрэбна зьвярнуць пытаньню аб формах пабудовы цэнтральнага апарату і мэтодах ажыцьцяўленьня ім кіраўніцтва і кантролю над працай раёнаў.

4) Спэцыяльна трэба будзе паставіць пытаньне аб мэтодах пасіленьня масавай працы нізавых органаў і аб кіраўніцтве гэтай працай.

5) Значнай увагі патрабуе пытаньне аб узмацненьні правядзеньня рэвалюцыйнай законнасьці на мясцох і аб ролі раённых РСІ.

Да абмеркаваньня пытаньня аб арганізацыі працы ў раёнах і ў цэнтры ў сувязі з рэарганізацыяй акруговых зьвеньняў павінна быць прыцягнута ўся рабочая грамадзкасьць, увесь раённы і сельскі актыў.

Шырокі ўдзел мас у правядзеньні гэтай працы дасьць магчымасьць правесьці гэтую рэформу бяз значных перабояў і з найбольшым эфэктам.

**А. Вайцок.**

---

# Раён—вузлавы пункт у сацыялістычным будаўніцтве на вёсцы

„Зьезд цалкам і поўнасьцю адабрае рашэньне ЦК аб скасаваньні акруг і аб узмацненьні раёнаў, як асноўнага зьвяна сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы, што павінна прывесьці да рашучага набліжэньня партыйна-савецкага апарату да вёскі, да калгасаў, да мас. Гэтае мерапрыемства мае выключнае важнае значэньне для ўзмацненьня партыйнай арганізацыі на вёсцы, а таксама для палепшаньня і спрашчэньня сувязі ЦК і вобласьцяў з месцамі“.

*З рэзалюцыі XVI партзьезду.*

Пастанова ЦК УсеКП(б), зацьверджаная XVI партзьездам аб скасаваньні акруг, як прамежнага зьвяна паміж раёнам і цэнтрам (вобласьць, рэспубліка) у сучасны момант сацыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца жыцьцёвай неабходнасьцю.

Для больш пасьпяховага кіраўніцтва ўсімі працэсамі сацыялістычнага будаўніцтва, ліквідацыі кулацтва, як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі, патрэбна набліжэньне цэнтральнага савецкага апарату ў калгасы, у вёску, а гэта магчыма толькі тады, калі будуць ліквідаваны акруговыя апараты.

Акругі і акруговыя працаўнікі, выпаўніўшыя вялізарную ролю як у адбудоўчы пэрыяд народнае гаспадаркі, таксама і ў пачатку рэканструкцыйнага пэрыяду ня вінаваты ў тым, што на даным этапе сацыялістычнага будаўніцтва роля іх зводзіцца ў перадатачныя функцыі паміж цэнтрам і раёнамі. Ганьбіць, або змазваць ролю акруг і акруговых працаўнікоў, як гэта прабуюць рабіць некаторыя таварышы—нельга і нават шкодна. Тав. Сталін на XVI зьезьдзе ў сваім дакладзе адзначыў: „Зразумела, акругі трэба ліквідаваць, але было-бы памылкай думаць, што гэтая акалічнасьць дае нам права ахайваць акругі, як гэта дапушчаюць некаторыя таварышы на старонках „Правда“. Ня трэба забываць, што акругі вынесьлі на сваіх плячох вялікую работу і адыгралі ў свой час вялізарную гістарычную ролю.“

Жыцьцё патрабавала на сучасным этапе сацыялістычнай рэканструкцыі непасрэднай сувязі цэнтра з раёнам і гэта сувязь і набліжэньне цэнтральнага апарату будзе зроблена шляхам ліквідацыі акруг.

Магчыма, што пры практычным пра-

вядзеньні ў жыцьцё пастановы XVI зьезду, калі шэраг апэрацыйных функцый і матар'яльных рэсурсаў акруг будуць перадавацца ў раёны, сярод асобных працаўнікоў з аджыўшымі старымі бюракратычнымі поглядамі будуць усплываць „абгрунтаваныя“ думкі аб няздольнасьцях раёнаў выканаць задачы сучаснага моманту сацыялістычнай рэканструкцыі народнае гаспадаркі. Ня выключана магчымасьць, што і ў БССР знойдуцца працаўнікі-абаронцы існаваньня акруг, з поглядамі аналёгічнымі Угланаўскім „реже шаг, тверже поступь“.

Пытаньне аб ліквідацыі акруг і ўмацаваньні раёнаў прысьпела і ў абвестку дню пастаўлена ужо даўно. Яшчэ XVI партыйная канфэрэнцыя УсеКП(б), адзначыла неабходнасьць умацаваньня раёнаў, як асноўнага зьвяна ў сыстэме савецкага будаўніцтва і вынесла наступную пастанову, „паскольki вузлавым пунктам, дзе ажыцьцяўляюцца дырэктывы партыі і савецкай улады, зьяўляецца раён, сюды неабходна перанесьці і цэнтр цяжару работы па палепшаньню і спрашчэньню дзяржаўнага апарату“.

Бясспрэчна, выконваць раёнам, гарсаветам і сельсаветам досыць складаныя задачы па сацыялістычнаму будаўніцтву пры пабудове пяцігадовага пляну ў разрэзе акругі цяжка. Патрэбна перагледзець пяцігодку ў напрамку выкананьня асобных галін будаўніцтва раёнамі, гарадзкімі і сельскімі саветамі. Неабходна пры ліквідацыі акруг справу выкананьня пяцігодкі давесьці да кожнага сельсавету і грунтоўна, асабліва там, дзе запраэктаваны ў плянавым парадку акругі розныя віды будаўніцтва.

З пашырэньнем праў раёнаў патрэбна ў першую чаргу пры перадачы апэрацыйных функцый і матар'яльных рэсурсаў умацаваць раёны кіруючымі кадрамі па розным галінам будаўніцтва, не дапусьціўшы адліву па аб'ектыўным і суб'ектыўным прычынам.

Без палепшаньня прававога і матар'яльнага становішча працаўнікоў раёнаў і сельсаветаў, цяжка будзе ўмацаваць раёны і сельсаветы кіруючымі кадрамі. Паказным прыкладам мажлівага адліву працаўнікоў пры ліквідацыі акруг можа быць Мазырская акруга, у якой пры досыць значных „адміністрацыйных посьпехах“ у галіне калектывізацыі (83,3 проц. двароў і 91,6 проц. калектывізаванай плошчы на 20-II) быў укамплектаваны належнай колькасьці акркалгассаюз. Аднак, пры скарачэньні апарату акркалгассаюзу на 17 працаўнікоў на працы ў раёнах нiводзін з іх ня быў скарыстаны. Між тым у Мазырскай акрузе ў нізавым савецкім апараце яшчэ працуе 65 проц. вычышчаных камісіяй па чыстцы савецкага апарату. Вось чаму да падрыхтоўчай працы па ліквідацыі акруг і усебаковага ўмацаваньня раёнаў патрэбна прыступіць зараз-жа з разьлікам хутчэйшага зьнішчэньня косных кансэрватыўных праслоек у апаратах, і асабліва дабіцца з пачатку працы асноўнай мэты ўмацаваньня раёнаў, гарсаветаў і сельсаветаў працаўнікамі вытраманымі і упаўне здольнымі паскорыць тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва. Усім наркаматам і установам неабходна тэрмінова заняцца падрыхтоўкай перадачы абавязкаў і матар'яльных рэсурсаў акруговых аддзелаў у раёны і гарсаветы, а некаторых праў і абавязкаў і ў сельсаветы, *памятуючы, шно ні якіх органаў* (інспэкцыі, бюро сувязі, пляніраваньня, розных кансультацый) *пасьля ліквідацыі акруг ня будзе застаўлена.*

З ліквідацыяй акруг перад некаторымі саюзнымі рэспублікамі (Украіна, Закаўказьзе) мажліва паўстане пытаньне, у сувязі з рэзка выявіўшыміся эканамічнымі асаблівасьцямі, геаграфічнымі ўмовамі і нацыянальнымі момантамі, аб выдзяленьні абласьцей. У некаторых працаўнікоў таксама ёсьць ужо думкі аб магчымай арганізацыі вобласьцей і ва ўмовах БССР.

Вядома, такія думкі ня ёсьць што-та абгрунтаванае, а мэханічнае дубліраваньне сыстэмы суседніх больш буйнейшых рэспублік. Скарыстаньне вопыту, абмен думкамі і прымяненьне дасягненьняў у розных галінах будаўніцтва, гэта неабходная карысная і патрэбная справа, але нельга пры гэтым трымацца ўпарта, як сьляпы сьцяны, простага дубліраваньня, як гэта прабуюць рабіць некаторыя ўстановы і працаўнікі. Калі ў РСФСР маюцца вобласьці, то гэта ня значыць, што такія-ж вобласьці абавязкова патрэбна мець і ў БССР.

Для яскравасьці можна параўняць тэрыторыю і лік насельніцтва дзьвух вобласьцяй РСФСР ЦЧВ (Цэнтральная Чорназемная вобласьць) найменшую па тэрыторыі і НВК (Ніжне-Волскі край) сярэдняя з тэрыторыяй БССР.

| Назва | Тэрыторыя ў тысячах кв. кілём. | Насельніцтва ў тысячах | На кв. кілёмэтр |
|---|---|---|---|
| ЦЧВ | 204 | 12.000 | 58 |
| НВК | 316 | 5.500 | 17 |
| БССР | 126 | 4.925 | 31 |

Гэтыя лічбы сьведчаць, што як па тэрыторыі, так і па колькасьці насельніцтва нельга ў БССР арганізоўваць асобныя вобласьці. Таксама не выклікаецца неабходнасьцю арганізацыя вобласьці з пункту гледжаньня эканамічнага. Няма асобнага гаспадарчага ўкладу або нацыянальных асаблівасьцяй, якія-б выклікалі неабходнасьць адміністрацыйнага падзелу БССР на вобласьці.

Такім чынам, у БССР найбольш мэтазгодным будзе пакінуць трохступенную сыстэму: сельсавет—раён—цэнтр.

Адначасова пры ліквідацыі акруг таксама паўстае пытаньне сярод некаторых устаноў аб узбуйненьні раёнаў і сельсаветаў. Разьбіраючы гэтае другачарговае пытаньне, зьвязанае з першым (ліквідацыя акруг), патрэбна прытрымлівацца ў асноўным наступнага:

1) Пры раёнаваньні адміністрацыйная адзінка павінна саўпадаць з эканамічным цэлым, 2) велічыня тэрыторыі раёнаў і сельсаветаў і іх эканамічнае цягаценьне; 3) колькасьць насельніцтва; 4) набліжэньне савецкага апарату да калгасаў, вёскі і 5) нацыянальныя асаблівасьці.

Праводзячы практычную працу па ліквідацыі акруг нямэтазгодна ўзбуйняць раёны і вось чаму: па-першае, узбуйненыя сёньня эканамічныя і адміністрацыйныя цэнтры пры далейшай суцэльнай калектывізацыі будуць зьменены і і значна; другое—колькасьць насельніцтва ў раёнах і сельсаветах БССР, у панаўнаньні з іншымі рэспублікамі, у адносінах сельсаветаў найбольшая, а ў адносінах раёнаў па колькасьці насельніцтва вышэй стаіць густанасялёная Украіна.

| Назва рэспублік | Сярэдняя колькасьць насельніцтва | |
|---|---|---|
| | Раён | Сельсавет адміністр. адзінка |
| РСФСР . . . . . | 37822 | 1614 |
| Украінская ССР . | 49805 | 2642 |
| Азербайдж. ССР . | 30000 | 1500 |
| Армянская ССР . | 29834 | 1023 |
| Грузінская ССР . | 33152 | 3237 |
| БССР . . . . . . | 48762 | 3367 |

Далейшы калектыўны рух будзе патрабаваць узбуйненьня раёнаў і сельсаветаў, якое і будзе праводзіцца ў жыцьцё з разрахункам саўпадзеньня эканамічных і адміністрацыйных адзінак.

У сучасны момант патрэбна падрыхтавана приступіць да ліквідацыі акруг і ўсебаковага ўмацаваньня раёнаў, як асноўных зьвеньняў сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы, закончыўшы гэтую працу ў асноўным да кастрычніка месяца і тады, на падставе прапрацаваных матар'ялаў, прыступіць да ўзбуйненьня раёнаў і сельсаветаў. **А. М.**

**Ад рэдакцыі:** Рэдакцыя просіць раённых працаўнікоў выказацца па закранутых у гэтым артыкуле пытаньнях. **Рэдакцыя.**

# Аб важнейшым у працы сярод працоўных жанчын

Важнейшыя гістарычныя задачы, пастаўленыя нашай партыяй перад краінай Саветаў па сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі краіны, ажыцьцяўленьні масавай калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і на гэтай падставе ліквідацыя кулацтва як клясы, па перабудове быту працоўных мас на сацыялістычных падставах, правядзеньне культурнае рэвалюцыі — патрабуюць ад

нас,—ад партыйных і савецкіх органаў правільнага і поўнага скарыстаньня творчай актыўнасьці шырачайшых працоўных мас. Бо посьпехі ў сацыялістычным будаўніцтве могуць і будуць забясьпечаны толькі пры ўмове арганізаванасьці, энтузіязму і творчай ініцыятывы рабочае клясы і асноўных мас працоўнага сялянства, пад геніальным кіраўніцтвам нашай Ленінскай Камуністычнай партыі.

Мы бачым, як усё большы і большы ўдзел у агульным сацыялістычным будаўніцтве прымае працоўная жанчына; але гэты ўдзел зьяўляецца яшчэ недастатковым, які часам адстае ад тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва наогул і асабліва на вёсцы. Тут яшчэ вельмі шмат непачатай працы. Ва ўмовах-жа сучаснага пэрыяду абвастрэньня клясавай барацьбы, работа па арганізацыі і арганізацыйнаму замацаваньню, пашырэньню і скарыстаньню ўзросшай актыўнасьці работніц, батрачак і бядняцка-серадняцкіх мас сялянак, набывае зараз асабліва важнае палітычнае значэньне. Калі і да гэтага часу яшчэ наглядаюцца паасобныя выпадкі скарыстоўваньня антысавецкімі элемэнтамі найбольш адсталых пластоў працоўных жанчын для перашкод мерапрыемствам партыі і савецкай улады, — дык гэта тлумачыцца толькі слабай арганізацыйна-масавай і культурна-асьветнай працай сярод шырокіх мас жанчын гораду і вёскі. І таму, каб арганізаваць і правільна накіраваць узросшую актыўнасьць мас работніц, батрачак і сялянак-бяднячак і сераднячак на практычны ўдзел іх у шырокай сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі, на ўдзел у калектывізацыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва, неабходна прыстасаваць, ужыць усе формы і мэтады работы сярод жанчын, скарыстоўваючы ўсе сілы і магчымасьці на ўцягненьне ўсіх працоўных жанчын у сацыялістычнае будаўніцтва, на зьнішчэньне рэштка ў заняволеньня жаночай працы. Трэба дабіцца ўвязкі ўсіх мерапрыемстваў па палепшаньні працы і быту працоўных жанчын з тымі вялікімі тэмпамі сацыялістычнага будаўніцтва, што пасьпяхова ажыцьцяўляюцца ў нашай краіне. Толькі так трэба зараз ставіць пытаньне ў працы сярод жанчын—сярод працоўнага, раней найбольш прыгнечанага, цёмнага і заняволенага жаночага насельніцтва, якому комуністычная партыя і савецкая ўлада, дзякуючы Кастрычнікавай рэвалюцыі, надалі правы і поўную мажлівасьць удзельнічаць у вялікім будаўніцтве сацыялізму ў нашай краіне. З усяго гэтага і вынікаюць задачы партыйных органаў, саветаў і іх бытавых камісій у справе шырокага разгортваньня працы сярод усёй масы працоўных жанчын. Прычым, арганізаваць і паставіць працу сярод жанчын як сьлед у парадку плянаў і сыстэмы нашай штодзённай працы, адкінуўшы ў бок усялякую бяссыстэмнасьць, параднасьць і наскокі ў гэтай важнейшай працы арганізацыйнага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Неабходна зараз як сьлед узяцца за сыстэматычнае вывучэньне і вырашэньне пытаньняў больш шырокага ўцягненьня працоўных жанчын у прамысловасьць, паставіўшы на належную вышыню сыстэматычную плянавую падрыхтоўку кадраў жаночай кваліфікаванай сілы праз спэцыяльныя і агульныя курсы. Трэба паставіць пытаньне навуковага дасьледваньня жаночай працы ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы з тым, каб найлепшыя дасягненьні навукі і тэхнікі, сапраўды паляпшаючыя працу і быт жанчыны, маглі быць шырока і безадкладна скарыстаны ва ўсіх галінах нашага будаўніцтва, нашага савецкага, пралетарскага быту.

Важнейшай галінай працы сярод працоўных жанчын вёскі зьяўляецца неабходнасьць усебаковага садзейнічаньня справе шырокай калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, *як адзіна правільнага і рэальнага сродку, разьнявольваючага працоўную сялянку*, сапраўды паляпшаючага яе быт. Пры гэтым неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на калектывізацыю працы і палепшаньне быту жанчын у калгасах і саўгасах, на пабудову там грамадзкіх сталовак, прачашных, дзіцячых ясьляў, пляцовак, майстэрняў і г. д., каб усё гэта было прыкладам і спрыяла суцэльнай калектывізацыі ўсіх іншых яшчэ раскіданых адзінаклічных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак вёскі.

Скарыстоўваючы жаночую працу ў

сацыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі, неабходна дабівацца магчыма большай мэханізацыі і рацыяналізацыі жаночай працы. Трэба ўсямерна дабівацца і садзейнічаць арганізацыі спэцыяльных жаночых первястковых калектыўных аб'яднаньняў адзіналічніц і шырокай кантрактацыі, правільнага скарыстаньня іх прадукцыі. У працы сярод калгасьніц, палепшаючы іх умовы працы і быт, неабходна зьвярнуць увагу на інтэрнацыянальнае выхаваньне калгасьніц, уцягваючы ў гэта выхаваньне, а таксама ў працу калектыўнага выхаваньня і абслугоўваньня дзяцей батрачак, беднячак і серадднячак сялянак, не ўвашоўшых яшчэ ў калгасы.

Новае гарадзкое жыльлёвае будаўніцтва павінна поўнасьцю *забясьпечваць моманты калектывізацыі быту,* утварэньне бытавых установаў, вызначэньнем адпаведнай плошчы, згодна законаў савецкай улады. Аднак, трэба адзначыць, што нашы будаўнічыя організацыі часта праяўляюць недапусьцімую няўважлівасьць да гэтае справы і таму трэба ім, жактам, як многім нашым организацыям і ўстановам і нават цэлым некаторым акругам, напомніць наступныя словы У. І. Л е н і н а: „Сапраўднае вызваленьне жанчыны, сапраўдны камунізм пачнецца толькі там і тады, дзе і калі пачнецца масавая барацьба (кіруемая ўладаючым дзяржаўнай уладай пралетарыятам) супроць гэтай дробнай хатняй гаспадаркі, ці вярней масавая перабудова яе ў буйную сацыялістычную гаспадарку.

Ці дастаткова ўвагі ўдзяляем мы на практыцы гэтаму пытаньню, якое тэарэтычна бясспрэчна для кожнага камуніста? Канешна, не. Ці дастаткова клапатліва адносімся мы да расткоў камунізму, якія ўжо зараз маюцца ў гэтай галіне? Яшчэ раз не і не. Грамадзкія сталоўкі, ясьлі, дзіцячыя сады—вось узоры гэтых расткоў, вось тыя простыя, буднічныя, нічога пышнага, паважнага, урачыстага не ўяўляюць сродкі, якія на справе здольны вызваліць жанчыну, на справе здольны палепшыць і зьнішчыць яе няроўнасьці з мужчынай па яе ролі ў грамадзкай вытворчасьці і грамадзкім жыцьці“ (Л е н і н, т. XVI, стар. 256).

Вось як характарызаваў тав. Л е н і н нашу нядбайнасьць і як ён ацэньваў бы тавыя ўстановы „расткі камунізму“.

У справе арганізацыі бытавых установаў вялікую ролю адыгрывае грамадзкая ініцыятыва, самадзейнасьць самых працоўных мас, актыўнасьць і сьвядомасьць самых працоўных жанчын. Але, разам з гэтым патрэбны сродкі, патрэбна дапамога дзяржаўных установаў і грамадзкіх арганізацый. У дадатак да асыгнаваньняў на бытавыя ўстановы па лініі дзяржаўнага і мясцовага бюджэтаў, законадаўствам Ураду прадугледжан шэраг розных адлічэньняў у зваротах капэрацыйных і гаспадарчых арганізацый. На жаль, гэтыя грошы не заўсёды сваячасова, рацыянальна, поўнасьцю і па прызначэньні скарыстоўваюцца. Тут віна ня толькі кіраўнікоў установаў, якія няправільна і несваячасова выдаткоўваюць сродкі на патрэбы бытавых установаў, але і самых бытавых камісій, сэкцый і ўсіх тых арганізацый, якія павінны сыстэматычна сачыць за правільнасьцю адлічэньняў і скарыстоўваньнем сродкаў палепшаньня быту. Бытавыя камісіі саветаў і выканкомаў павінны ўдзельнічаць ва ўсіх бюджэтных пасяджэньнях, нарадах і дабівацца павялічэньня сродкаў на бытавыя ўстановы. Гэта іх прамы абавязак.

Бытавыя камісіі павінны сыстэматычна рабіць праверку і агляд становішча культурна-бытавых установаў, а таксама правяраць работу ўстановаў і прадпрыемстваў у галіне разьвіцьця ўсіх мер па палепшаньні працы і быту. Зараз наша прамысловасьць пераходзіць на непрарыўку. У зьвязку з гэтым перад грамадзкімі арганізацыямі і бытавымі камісіямі стаіць важнейшая задача забясьпечыць бытавымі ўстановамі работніц непрарыўнай вытворчасьці нашых фабрык і заводаў. Нам трэба дапасаваць культрна-бытавыя ўстановы да больш поўнага абслугоўваньня жанчын-работніц і сялянак ня толькі ў час іх работы на прадпрыемстве, на працы сельскагаспадарчай вытворчасьці: калгасу, саўгасу, вёсцы, але і ў час іх грамадзкай работы і вучэбных заняткаў, асабліва калі прыняць пад увагу няпісьменнасьць, малапісьменнасьць і слабы ўдзел яшчэ жаночай масы ў грамадзкім будаўніцтве, у працы саветаў. Неабходна прыняць

рашучыя захады з боку савецкіх устаноў і грамадзкіх організацый да поўнай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод працоўных жанчын, падрыхтоўваючы кадры ліквідатараў няпісьменнасьці з саміх работніц, батрачак, бядначак і актывісткасераднячак. Разам з гэтым трэба ўтварыць спэцыяльныя фонды дапамогі дзецям батрацтва і беднаты, каб гэтым самым праз дапамогу даць магчымасьць усім дзяўчынкам бяднейшых бацькоў наведваць школу.

У справе вылучэньня жанчын-работніц, батрачак, бяднячак і сераднячакактывістак на кіруючую працу ў савецкіх установах і грамадзкіх арганізацыях мы маем вялізарныя посьпехі. Аднак, гэтага вельмі мала да сапраўдна поўнага выкананьня дырэктыў партыі. Некаторыя ўстановы, нават цэнтральныя, пачынаюць забываць партыйныя дырэктывы і пастановы Ураду пра вылучэньне жанчын і належнае іх выхаваньне на адказнай кіруючай працы. Вылучэньне і падрыхтоўка жаночых кадраў для працы ў савецкім апараце і грамадзкіх органах патрабуюць ад нас значна большай увагі. Агульныя і спэцыяльныя жаночыя курсы па падрыхтоўцы нізавых работнікаў у цэнтры і акругах павінны быць лепш пастаўлены і ў сэнсе падбору слухачак, і ў сэнсе арганізаванасьці і якасьці заняткаў. Вылучэньне жанчын як і наогул вылучэньне на кіруючую працу павінна стаць справай шырокай грамадзкасьці. Нельга дапушчаць габінэтнага вылучэньня бяз удзелу шырокіх мас працоўных, асабліва саміх жанчын, іх шырокага актыву. Трэба ствараць найлепшыя ўмовы працы для вылучаных таварышоў жанчын у савецкім апараце і грамадзкіх установах.

Барацьба з рэлігійнымі забабонамі, са знахарствам—у працы сярод жанчын павінна займаць адно з важнейшых і адказьнейшых месц. Нашы арганізацыі бязбожнікаў у сваёй працы павінны больш удзяляць увагі антырэлігійнай прапагандзе сарод шырокіх працоўных мас жанчын. Павялічыць у палітычна выхаваўчай працы колькасьць лекцый,. гурткоў, гутарак па антырэлігійнай прапагандзе з мэтай канчатковага зьнішчэньня рэлігійнага ўплыву на паасобныя пласты працоўных жанчын усіх нацыянальнасьцяй і падняцьця іх палітычнага і культурнага ўзроўню. Для вырашэньня гэтых задач неабходна як сьлед арганізавацца перш за ўсё самім бытавым камісіям.

У зьвязку з праведзенай рэарганізацыяй партапарату, што перабудавала апарат і працу жанаддзелаў, трэба ня толькі не паслабляць непасрэднага кіраўніцтва з боку парторганаў у адносінах да працы сярод жанчын, а, наадварот, трэба, і для гэтага ёсьць поўная неабходнасьць, узмацніць парткіраўніцтва ў гэтай галіне працы.

Савецкі апарат, бытавыя камісіі, сэкцыі, грамадзкія арганізацыі павінны ў зьвязку з рэарганізацыяй партапарату *ўзяць на сябе ўвесь цяжар канкрэтнай працы па сапраўднаму стварэньню лепшых умоў працы, па палепшаньню быту працоўных жанчын.* Так абстаіць справа. З гэтага трэба выходзіць савецкім і грамадзкім установам у сваёй працы, сустракаючыся з тымі ці іншымі пытаньнямі работы сярод жанчын. Сур'ёзна і ўважліва трэба адносіцца да пытаньняў усіх мерапрыемстваў бытавога разьняволеньня працоўных жанчын. Трэба больш адпушчаць сродкаў, больш накіроўваць сіл на гэтую справу. Задача цэнтральных савецкіх устаноў вырашыць у бліжэйшыя часы пяцігадовы плян палепшаньня працы і быту жанчын, што дасьць падставу для сыстэматычнага канкрэтнага вырашэньня ўсяго пытаньня.

Сацыялістычнае спаборніцтва, як важнейшы сродак ажыўленьня масавай грамадзкай дзейнасьці, *павінна займаць вялікае месца* ў бытавой працы сярод жанчын. Для забясьпечаньня пасьпяховасьці масавай і бытавой работы сярод жанчын, неабходна больш *шырока разгарнуць крытыку і самакрытыку* перш за ўсё праз друк, што дасьць нам магчымасьць своечасова выкрываць усе недахопы, памылкі і хібы, паставіць на належную вышыню палепшаньне працы і быту жанчын, уцягненьне шырокіх мас працоўных жанчын у актыўнае будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне.

**А. Хацкевіч.**

# АБ КАДРАХ ПА САВЕЦКАМУ БУДАЎНІЦТВУ

## Шырэй працу па падрыхтоўцы нізавога савецкага актыву

Партыйныя, прафэсыйныя, савецкія і іншыя арганізацыі абавязаны забясьпечыць усе ўмовы для падрыхтоўкі вылучэнцаў як у адносінах узьняцьця іх палітычнага і культурнага ўзроўню, так і практычнага вывучэньня імі работы ўстаноў...

*(З рэзалюцыі Студзеньскага Пленуму ЦК КП(б)Б 3-8-1-30 году).*

Ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў савецкай улады ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва мажліва было-б зьдзейсьніць з яшчэ большай пасьпяховасьцю і меншым лікам загібаў і розных скрыўленьняў, калі-б у дастатковай колькасьці і патрэбнай якасьці былі забясьпечаны нашы нізавыя савецкія органы падрыхтаванымі і клясава-вытрыманымі працаўнікамі. На жаль, да гэтага часу мы маем ня толькі недахоп у тым, што няма кадраў, але прыходзіцца канстатаваць, што ня ўсімі кіраўнікамі гэта пытаньне як належыць быць уцямлена, асабліва ў галіне савецкага будаўніцтва. Разважаньні, што для працы па савецкаму будаўніцтву мала патрэбна або зусім непатрэбна тэорэтычная падрыхтоўка выраз: „ідзі працуй і падрыхтоўвайся"... досыць часта можна чуць, калі накіроўваемы працаўнік добрасумленна заяўляе аб сваёй поўнай непадрыхтаванасьці для працы па савецкаму будаўніцтву. Такія адносіны зацямняюць кіруючую ролю саветаў у досыць складанай гаспадарчай, культурнай і сацыянальна-бытавой рабоце.

Паказчыкам няўважлівасьці ўмацаваньню кіруючай ролі саветаў рабочым ядром могуць быць наступныя прыклады: была пастанова ЦВК БССР аб накіраваньні членаў гарсаветаў на працу ў вёску для ўзмацненьня сельскіх саветаў. На справе мы маем становішча, што замест 200 членаў гарсаветаў было накіравана 174, дый то ў ліку іх 66% ня члены гарсаветаў і нават у складзе камандыраваных былі рабочыя 60 гадовага ўзросту, якім пры іх шчырым жаданьні, адданасьці працы з прычыны іх слабага здароўя, адсутнасьці транспартных сродкаў, вялікай тэрыторыі с.-саветаў надзвычайна цяжка працаваць і трымаць жывую сувязь з раёнамі і прадпрыемствамі, паслаўшымі іх на працу. З памянёнага ліку камандыраваных вылучэнцаў па ня поўных зьвестках, дзякуючы няўважлівым адносінам да камандыраваных, зьвярнулася назад з вёскі 7 вылучэнцаў.

Такія адносіны да вылучэнцаў, працаўнікоў у саветах, супярэчаць пастановам Студзеньскага Пленуму ЦК КП(б)Б, дзе ясна сказана: „Ні ў якім выпадку не дапушчаць габінэтнага вылучэньня зьверху, забясьпечыўшы самае шырокае абгаварэньне рабочай, бядняцкай, батрацкай масай кандыдатур вылучэнцаў на кіруючую работу на вытворчых нарадах, цэхавых рабочых сходах, батрацкіх сходах, групах беднаты і г. д.".

Шмат акруг і раёнаў вылучылі працаўнікоў у большасьці з вытворчасьці для работы ў сельскіх і местачковых саветах, але тэорэтычная падрыхтоўка для іх практычнай працы амаль ня зроблена.

Вось чаму пытаньне аб неабходнасьці тэарэтычнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі працаўнікоў нізавога савецкага актыву пэрыядычна і востра выплывае толькі тады, калі на практыцы тымі ці іншымі зьвеньнямі савецкага апарату ўжо нароблена шэраг памылак.

4-хмесячная непасрэдная праца вылучэнцаў на вёсцы па матар'ялах акруг сьведчыць аб добрасумленнасьці ў працы з боку вылучэнцаў, іх аўтарытэтнасьці сярод батрацкіх і бядняцка-серадніцкіх слаёў вёскі (няма брата, кума і свата), аднак, маючае месца паасобныя адмоў-

ныя складкі ў працы вылучэнцаў пры іх вылучэньні прыводзяць к таму, што некаторыя працаўнікі слаба ўзброены, як тэорэтычна, так і практычна Марксысцка-Ленінскай зброяй, неабходнай для кіраваньня калгасным рухам і ўзросшай актыўнасьцю шырокіх мас працоўнага сялянства.

Для ўзьняцьця на большую палітычную вышыню ролі саветаў, як органу дыктатуры пралетарыяту, недастаткова абмяжоўвацца толькі пасылкай на працу пэўнай колькасьці рабочых, батракоў і беднякоў. Патрэбна падрыхтаваць іх і захаваць шчыльную сувязь з рабочай масай прадпрыемстваў у горадзе і калгасамі ў вёсцы, якія павінны ведаць, як і ў якіх абставінах на вёсцы працуе іх вылучэнец і рабіць рабочы ўплыў на яго працу.

Наяўнасьць павялічэньня колькаснага складу калгасьнікаў у саветах за лік батрацтва і беднаты і асабліва жанчын, якія не працавалі на адказных выбарчых пасадах, якія павінны, праводзячы клясавую лінію партыі, ахапіць кіраўніцтвам усе працэсы пераможнага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, у адпаведнасьці са шпаркім тэмпам сацыялістычнага будаўніцтва. Рашуча ставяць у парадак дню пытаньне аб умацаваньні работы па падрыхтоўцы кадраў.

Такім чынам, жыцьцёвая неабходнасьць і тыя вялізарныя задачы, высунутыя партыяй і ўскладзеныя на саветы, вымагаюць ад нас запатрабаваньні ў працягу 1930 году падрыхтаваць працаўнікоў саветаў, падрыхтоўка якіх павінна ісьці ў асноўным па наступных напрамках: 1) перападрыхтоўка працаўнікоў па савецкаму будаўніцтву, якія зьяўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі ў працы саветаў і паходзяць з асноўнай бядняцка-серадняцкай і калхознай масы, 2) падрыхтоўка накіраваных кадраў рабочых і членаў гарсаветаў на сталую працу ў вёску, 3) падрыхтоўка новай колькасьці, згодна дырэктыў Студзеньскага Пленуму ЦК КП(б)Б, 750 асоб для савецкага апарату, з ліку якіх павінна быць вылучана ня менш 200 лепшых і ўстойлівых, працуючых ужо ў савецкім апараце, рабочых і работніц, якія павінны быць перасунуты з нізавой работы на кіруючую. Перападрыхтоўку працаўнікоў саветаў, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкай часткі вясковага актыву мажліва зьдзейсьніць, правёўшы кароткатэрміновыя сельскія і местачковыя курсы-канфэрэнцыі для ўсіх членаў с.-саветаў з мэтай азнаямленьня іх з новым палажэньнем пра с.-саветы.

Раённыя курсы-канфэрэнцыі для членаў прэзыдыумаў сельскіх і местачковых саветаў, акруговыя курсы для старшынь і сакратароў с.-саветаў, раённыя курсы для членаў гарсаветаў, накіраваных на сталую працу ў вёску, цэнтральныя курсы для жанчын-старшынь с.-саветаў, з мэтай большага іх ахапленьня курсамі і цэнтральныя курсы для акруговых і раённых работнікаў.

Падрыхтоўка вылучэнцаў 750 рабочых не павінна абмяжоўвацца толькі ў іх тэорытычнай падрыхтоўцы для ўдзелу ў практычнай працы, але самае галоўнае, пры адборы, не дапушчаючы габінэтнага вылучэньня зьверху, якія мелі месца пры ранейшых вылучэньнях, павінна быць шырокае абгаварэньне кандыдатур рабочымі на вытворчых нарадах, цэхавых і рабочых сходах—у горадзе, і батракамі, беднякамі і калгасьнікамі, групамі беднаты—у вёсцы, зьвярнуўшы належную ўвагу на нацыянальны склад вылучаемых.

Падрыхтоўчую працу вылучэнцаў-рабочых патрэбна прыстасаваць у залежнасьці ад зьмен на прадпрыемствах, арганізаваўшы групы дзенныя і вячэрнія, забясьпечаўшы выкладчыкамі з марксысцка-вытрыманай ідэолегіяй. Праграмы для курсаў павінны быць распрацаваны пад кутом погляду сучасных запатрабаваньняў сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі і павінны быць даступны ўсваеньню элемэнтарна-неабходных сацыяльна-палітычных і адміністрацыйна-тэхнічных ведаў.

Толькі пры такой пастаноўцы мажліва дасягнуць эфэктыўнасьці ў падрыхтоўчай працы, а курсантам мажліва набыць рэвалюцыйную тэорыю, якая дасьць рэвалюцыйную практыку і апраўдаць сродкі, вылучаемыя дзяржавай на гэту патрэбу.

А. Мікуліч.

# Аб кіруючых кадрах па савецкаму будаўніцтву

Пытаньне аб кадрах, асабліва кадрах саветаў, на сучасным этапе сацыялістычнага будаўніцтва, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы зьяўляецца пытаньнем першачарговай палітычнай важнасьці.

Пасьпяховае выкананьне дырэктывы аб індустрыялізацыі краіны, масавы ахоп калектывізацыяй батракоў, бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак вёскі і інш. будуць немагчымы без належнай перападрыхтоўкі існуючых і сталай падрыхтоўкі новых кіруючых кадраў саветаў.

Трэба сказаць, што аж да апошняга часу работа па вывучэньні становішча і сталай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў саветаў зьяўляецца зусім недастатковай,—нават адсутнічае сталая адзіная сыстэма падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі.

Вырашчваньне новых кадраў праводзілася бясплянава і бяз вучоту патрэбнасьцяй. Сыстэматычнай работы па арабочаньні савецкіх кадраў не вялося.

У выніку гэтага—праслойка рабочых, працаваўшых непасрэдна ў станка, у складзе адказных працаўнікоў саветаў зусім нязначная.

Згодна няпоўных вестак, якія ёсьць у Арганізацыйным аддзеле Прэзыдыуму ЦВК БССР сацыяльнае становішча адказных работнікаў саветаў і выканкомоў (старшыні, намесьнікі, сакратары, інструктары) наступнае:

Сярод работнікаў акруговага маштабу рабочых—28,2 проц., батракоў—2,6 проц., сялян—48,7 проц, служачых—20,5 проц.,

Раённага маштабу—рабочых—24,6 проц. батракоў—2,4 проц., сялян—67,6 проц., служачых—5,3 проц.

Калі-ж паглядзець, колькі сярод работнікаў саветаў да работы ў апошніх працавала непасрэдна на вытворчасьці, дык убачым наступнае: з агульнага ліку работнікаў акруговага маштабу працавала на вытворчасьці 7,7 проц., на земляробстве—няма; раённага маштабу працавалі на вытворчасьці 4,4 проц., земляробстве—1 проц.

У той час як для падрыхтоўкі кадраў іншых галін існуе цэлы шэраг навучальных ўстаноў, курсаў і г. д., у БССР да гэтага часу ня было нават спэцыяльнай навучальнай ўстановы, якая бы рыхтавала работнікаў па савецкаму будаўніцтву.

Ні чым іншым як слабасьцю кадраў саветаў тлумачыцца тое, што значная колькасьць сельскіх і гарадзкіх саветаў БССР аказалася не на высаце ў рабоце па калектывізацыі вёскі, а таксама па зьнішчэньні прарываў, якія маюць месца ў выкананьні промфінпляну.

Студзеньскім Пленумам ЦК КП(б)Б, а таксама пастановай прэзыдыуму ЦВК БССР ад 27-IV-30 году намечаны шэраг мерапрыемстваў па палепшаньні становішча кадраў саветаў у падрыхтоўцы новых работнікаў.

Згодна гэтых пастаноў, да 1-га кастрычніка 1930 году будзе вылучана на работу ў савецкія органы—цэнтральныя, акруговыя і раённыя ня менш 550 рабочых, работніц, батракоў, батрачак і сялян беднякоў.

Будзе праведзена прасоўваньне з ніжэйшай работы на вышэйшыя пасады ня менш 200 рабочых, работніц, якія працуюць у нізавых савецкіх органах, як вылучэнцы.

На падставе гэтых-жа пастаноў пры Камвузе Беларусі ім. Леніна адчынен сэктар для падрыхтоўкі адказных савецкіх работнікаў для раёну; для падрыхтоўкі адпаведных савецкіх работнікаў цэнтральнага і акруговага маштабу адчынен факультэт Савецкага будаўніцтва і права пры БДУ; арганізуецца шэраг курсаў, у тым ліку $1^1/_2$ месячныя цэнтральныя курсы на 150 чал. для перападрыхтоўкі работнікаў раёнаў і акруг; будуць арганізаваны сталыя аднагодовыя курсы пры ЦВК БССР на 150 чал.

У сучасны момант згодна пастановы дырэктыўных органоў распрацаваны адзін парадак вучоту кадраў саветаў і вылучэнцаў. Згодна гэтага Арганізацыйны Аддзел Прэзыдыуму ЦВК БССР будзе весьці сталы вучот наступных адказных савецкіх працаўнікоў: старшыньіх намесьнікаў, сакратароў і інструктароў акрвыканкомаў; старшынь, намесьнікаў і сакратароў гарсаветаў акруго-

вых і неакруговых гарадоў; старшынь, сакратароў і інструктароў райвыканкомаў.

На падставе гэтага вучоту будуць распрацоўвацца канкрэтныя мерапрыемствы па арабочаньні работнікаў савецкіх органаў, большага вылучэньня на кіруючую работу жанчын, бо лік апошніх у складзе кіруючых кадраў зусім нязначны. Сярод работнікаў акруговага маштабу жанчын маецца—10,2 проц., раённага—5,3 проц.

Да гэтага часу зусім адсутнічаў сталы вучот вылучэнцаў. Устаноўлены яшчэ ў мінулым годзе парадак, каб раёны акругі вялі сталы вучот вылучэнцаў, а таксама рэзэрву і давалі зьвесткі Арг-Аддзелу ЦВК, ня выконваецца і трэба думаць, што такога вучоту няма.

У зьвязку з гэтым неабходна, каб зараз-жа пры акрвыканкомах былі вылучаны адпаведныя працаўнікі па вучоту кадраў. На іх павінны быць ускладзены наступныя абавязкі: вядзеньне сталага вучоту кадраў савецкіх органаў; работа па вучоту рабочых, батракоў і сялян беднякоў у савецкі апарат; арганізацыя падрыхтоўкі новых кадраў для савецкага апарату і перападрыхтоўкі існуючых; сыстэматычнае вывучэньне пытаньня аб правільным скарыстоўваньні работнікаў савецкага апарата і іх кваліфікацыя; сачыць за выкананьнем пастаноў аб кадрах для саветаў.

Толькі тады будзе магчыма дабіцца карэннага пералому ў справе падрыхтоўкі, і перападрыхтоўкі і арабочаньня кадраў па савецкім будаўніцтве, калі акруговыя выканаўчыя камітэты, гарсаветы, прафэсыянальныя арганізацыі з ўсёй уважлівасьцю і сур'ёзнасьцю аднясуцца да гэтай справы. Толькі тады магчымы належныя посьпехі па вылучэньні рабочых, батракоў і сялян беднякоў на сталую кіруючую працу ў саветы і выканкомы, калі гэтая галіна работы зойме належнае месца ва ўсёй рабоце саветаў і выканкомаў.

Кандыдатуры вылучэнцаў трэба шырока абгаворваць на сходах рабочых, батракоў, калгасьнікаў і бедняты ў вёсцы. Павінен быць створан сталы рэзэрв актывістых, з якіх і будзе чэрпацца папаўненьне кадраў органаў пролетарскай дыктатуры клясава-вытраманымі работнікамі.

К. Мурашкевіч.

# Дапамога пралетарскага гораду ў сацыялістычнай перабудове вёсцы

Задачы ажыўленьня дзейнасьці Саветаў і іх узмацненьня, парабудовы іх работы ў саадпаведнасьці з запатрабаваньнямі рэконструкцыйнага пэрыяду могуць быць пасьпяхова вырашаны толькі пры забесьпячэньні кіруючай ролі ў саветах рабочае клясы.

Гарсаветы, як сапраўдныя органы пралетарскай дыктатуры, прышлі на дапамогу ўзмацненьня і перабудовы работы сельскіх саветаў пад лёзунгам: „Саветы, тварам да калгаснага руху“,—паслаўшы лепшых рабочых гарадзкога актыву на працу ў вёску.

Як-жа адклікнуліся нашы Гарсаветы на прызыў партыі і ўлады да пасылкі рабочых-членаў Гарсавету на сталую работу ў вёску для ўзмацненьня сельскіх саветаў і дапамогі ім у сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі?

Вакол задачы дапамогі нізавым савецкім органам, як важнейшага палітычнага мерапрыемства сувязі горада з вёскай, гарсаветы ўтварылі грамадзкую думку, у выніку якой вылучэньне рабочых з гарадзкога актыву для пасылкі ў вёску праходзіла ў парадку добраахвотнасьці і з вялікім уздымам. Пры адборы больш вопытных, праверанах на грамадзкай рабоце і больш падыходзячых для працы ў сельскіх умовах кандыдатуры вылучаных рабочых абгаварываліся папярэдня на рабочых сходах, сходах парт'ячэйкі, а потым зацьвярджаліся Пленумам Гарсавету. Усяго такім чынам на 1-V г. г. Гарсаветамі завербавана 183 рабочых-актывістых, гэта значыць, што пастанова Ураду БССР ад 17-II-30 г. аб пасылцы ў сельскія саветы 200 рабочых—членаў Гарсаветаў выканана на 91,5 проц. Не-

давыкананьне заданьня на 8,5 проц. адносіцца да Гарсаветаў Аршанскай акругі, накіраваўшых на вёску замест вызначаных 15 чал.—6 чал. і Гарсаветаў Магілеўскай акругі, паслаўшых замест 20—11 чалавек. Акрамя гэтага, паказаная пастанова ад 17-II-30 г. ня выканана яшчэ ў тым сэнсе, што большасьць пасланых рабочых актывістаў складаюць ня члены гарсаветаў, а сэкцыянэры, менавіта: сярод пасланых членаў і кандыдатаў у члены гарсаветаў—58 ч. альбо 31,6 проц., а прымацованага актыву—сэкцыянэраў—125 чал., альбо 68,4 проц. Аднак трэба адзначыць, што, ня гледзячы на памылку, якую гарсаветы зрабілі, пасылаючы нараду з членамі гарсаветаў і членаў сэкцый, пасланыя таварышы зьяўляюцца дастаткова палітычна - падрыхтаванымі клясава-вытрыманымі і праверанымі на грамадзкай рабоце пралетарыямі, якія могуць сябе апраўдаць на самастойнай кіруючай рабоце. З пасланых 183 ч. членаў і кандыдатаў КПБ—82,5 проц.; членаў і кандыдатаў ЛКСМБ—6,0 проц; беспартыйных—11,5 проц.; рабочых з вытворчасьці—97,8 проц. Па вытворчаму стажу пасланыя падзяляюцца: да 5 год—17,6 проц.; да 10 год—26,8 проц.; да 15 год—19,7 проц.; да 20 год і звыш—35,9 проц. Разам з гэтым вылучаныя таварышы маюць значны вопыт у практычнай грамадзкай рабоце саветаў.

Разьмеркаваны гэты рабочы актыў па акругам наступным парадкам: Аршанскай—10 ч., Бабруйскай—25 ч., Віцебскай—22 ч., Гомельскай—30 ч., Менскай—35 ч., Магілеўскай—24 ч., Мазырскай—18 ч. і Полацкай—19 ч. Пры чым, 96,3 проц. усіх пасланых таварышоў пры перавыбарах увайшлі ў склад саветаў і ўжо працуюць у якасьці старшынь і сакратароў; 4,1 проц. працуюць на пасадзе старшынь калгасаў, а 1 чалавек ці 0,6 проц. скарыстан зэгадчыкам сталоўкі. Амаль усе яны з ускладзенымі на іх абавязкамі ў асноўным спраўляюцца, праяўляюць ініцыятыву і жаданьне работаць. Праўда, сярод вылучаных аказаліся і такія, якія, прыбыўшы на месца, спужаліся цяжкасьцяй жыцьця і работы на вёсцы і дызэртыравалі назад на вытворчасьць. Такіх выявілася 13 чалавек: 9 чал. пасланых Менскай акругай, 3—Бабруйскай і 1 чал.—Гомельскай. Такі факт гаворыць аб тым, што гэтыя кандыдатуры ня глыбока былі праверваны, а таксама недастаткова ўявілі сабе важнасьць і пачэснасьць работы ў саветах.

Як недахоп у справе пасылкі рабочых з гарадзкога актыву ў сельскія саветы трэба адзначыць тое, што большасьць з іх, выяжджаючы ў вёску, папярэдня не прайшлі двухтыднёвых падрыхтоўчых курсаў, аб арганізацыі і правядзеньні якіх было даручана Акрвыканкомам. Другім недахопам зьяўляецца тое, што сувязь з працуючымі на вёсцы да гэтага часу яшчэ не наладжана. Існуючая сувязь вызначаецца ў форме пісьмовых указаньняў; выезды прадстаўнікоў гарсаветаў у вёску рэдкія і носяць выпадковы характар. Часьцей пасланыя таварышы, прыяжджаючы ў горад, самі зварачваюцца ў Гарсавет за атрыманьнем жывога кіраўніцтва па таму ці іншаму пытаньню. Зразумела, што такая сувязь ня можа даць тэй практычнай дапамогі працуючым у вёсцы, якую яны патрабуюць на новай працы ў саветах.

Неабходна наладзіць больш цесную жывую сувязь пасланых у сельскія саветы як з гарсаветамі і Выканкомамі, так і з прадпрыемствамі, адкуль яны вылучаны, каб пры іх дапамозе вырашаць усе складаныя пытаньні работы на вёсцы. Формамі гэтай сувязі павінны зьявіцца:

1. Шэфства гарсаветаў і прадпрыемстваў, паслаўшых рабочых на сталую працу ў вёску, над тымі сельсаветамі і калгасамі, дзе працуюць пасланыя таварышы.

2. Сыстэматычныя выезды членаў Прэзыдыумаў Гарсаветаў у тыя сельсаветы, дзе працуюць вылучаныя таварышы, дзеля праверкі і інструктаваньня іх, а таксама аказаньня ім практычнай дапамогі ў штодзеннай працы. Такая-ж дапамога неабходна з боку інструктажа Райвыканкомаў.

3. Выязныя пасяджэньні Прэзыдыумаў і Пленумаў Гарсаветаў для абмену вопытам работы ў горадзе і ў вёсцы.

4. Пэрыядычныя заслухоўваньні Райвыканкомамі інфармацый аб рабоце пасланых гарсаветамі таварышоў у вёску.

Наогул трэба сказаць, што мэтад уліваньня пралетарскіх элемэнтаў у сельскія саветы мае вялікае значэньне, бо

толькі пры гэтай умове сельскія саветы, як органы пралетарскай дыктатуры, змогуць ажыцьцявіць усе новыя задачы, стаячыя перад саветамі ў галіне сацыялістычнай перабудовы вёскі.

Адначасова з гэтым трэба помніць, што пытаньне ўзмацненьня нізавога савецкага апарату не зьяўляецца кампаніяй, а павінна цікавіць пралетарскі горад штодзенна з мэтай вылучэньня найлепшых рабочых-актывістаў на працу ў сельскія саветы. Патрэбнасьць у пралетарскіх кадрах для сельскіх саветаў па БССР на сеньнешні дзень вызначаецца ў 500 чал.

**Г. Элентух.**

# Вылучылі і забыліся

(*Бягомльскі раён, Меншчына*)

У бягомльскім РВК пасьля пераходу на бесьперапынны працоўны тыдзень была выпрацавана сетка дзён адпачынку кожнага служачага і замяшчэньня адпачываючых. Праўда, рацыяналізатару РВК прышлося шмат папрацаваць і папацець, пакуль „дабіліся толку“, бо трэба-ж было зрабіць так, каб кожны замяшчаючы адпавядаў прызначэньню і змог у час адсутнасьці данага таварыша вырашыць за яго справу і даць наведвальніку правідловы і хуткі адказ. Калі прыглядзіцца да замяшчэньня (машыністка замяшчае ст. справавода і рэгістратаршу, загадчык вайсковым справаводзтвам—машыністку, райстатыст—справавода земчасткі), дык і з гэтага відаць, што замяшчэньне падобрана няўдала. Ды яно так і ажыцьцяўляецца на справе: прыдзе дзядзька у час выхаднога дню, напр. старшага справавода, ды шукае яго. Праз добрай поўгадзіны (машыністка-ж занята і гаварыць ня хоча) яму адказваюць: „у яго сёньня выхадны дзень, прыдзеце другі раз“. І каб хто, а то гэткі адказ дае сам замяшчаючы, каб унікнуць „не яго справы“. У выніку такога важнага мерапрыемства, як перавод устаноў і прадпрыемстваў на бесьперапынку мы маем не паляпшэньне працы, а пагоршаньне яе.

Адначасова неабходна адзначыць, што рацыяналізатарская праца ў РВК знаходзіцца як горш ня трэба: ня гледзячы на тое, што працаўнікамі ўнесена каля 20 прапаноў, ніводнага з іх нават не разгледжана (а аб тым, што не праведзена ў жыцьцё і гаварыць няма чаго). Фонд прэміраваньня за лепшыя і карысныя прапановы не скарыстан.

Таксама дрэнна абстаіць справа ў коопэрацыі: калі, напр., сёньня ў прадаўца кніжнай крамы дзень адпачынку, дык ніхто яго не замяшчае і ў той дзень ужо сшытка, ці алоўка ня купіш. А таксама „перайшлі“ на бесьперапынку.

Гэтай справай, мабыць, павінен зацікавіцца Менскі АВК, прыняць тэрміновыя захады да ажыцьцяўленьня яе, бо на мясцох на гэта глядзяць „скрозь пальцы“ і справа не варушыцца з мёртвага месца.

Вяскор **Канаплянік.**

# ЯК ПРАЦУЮЦЬ СЕЛЬСКІЯ САВЕТЫ

## Аб масавай рабоце сельсаветаў

За час з XV Зьезду—партыя правяла вялізарную працу па ўзмацненьню нізавых органаў пралетарскай дыктатуры на вёсцы—сельсаветаў, за палепшаньне іх работы і за ўцягненьне ў яе шырокіх працоўных мас сялянства, што і выразілася ў пасьпяховым правядзеньні аснаўных палітычна-гаспадарчых кампаній на вёсцы.

Рэканструкцыйны пэрыяд ставіць перад сельсаветамі рад новых задач, патрабуе рашучай перабудовы ўсёй іх работы ў напрамку надданьня ёй большай клясавай чоткасьці, усваеньня новых паскораных тэмпаў, што немагчыма без яшчэ большага ўцягненьня ў работу сельсаветаў шырокіх мас батрацтва, беднаты і сераднякоў, асабліва жанчын, у мэтах далейшага пад'ёму сацыялістычнай перабудовы вёскі.

Масавая работа сельсаветаў у пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі вёскі набывае асабліва важнае значэньне.

Неабходна канстатаваць, што, ня гледзячы на значныя зрухі і дасягненьні ў масавай рабоце сельсаветаў — агульнае яе становішча, асабліва работа сэкцый пры сельсаветах, застаецца далёка нездавальняючай.

Масавая работа яшчэ не набыла тых форм і мэтадаў, таго размаху, які вымагаецца пэрыядам грандыёзьнейшых зрухаў у перабудове сельскай гаспадаркі.

Сельсаветы, у значнай сваёй частцы, яшчэ не сталі сапраўднымі арганізатарамі працоўных мас сялянства вакол чарговых задач партыі на вёсцы.

Сэкцыі і камісіі пры сельсаветах у значнай частцы бязьдзельнічаюць і лічуцца толькі на паперы, а ў шэрагу выпадкаў нават застаюцца неаформленымі.

У гэтых умовах прыходзіцца гаварыць ня толькі аб палітычных задачах, аб перабудове работы сэкцый, аб пераключэньні іх на новыя формы і мэтады работы, але таксама і аб элемэнтарных арганізацыйных пытаньнях.

Напрыклад, пры Дубровіцкім сельсавеце, Клімавіцкага раёну, па заяве старшыні сельсавету (бо па пратаколах не відаць) існуюць тры сэкцыі: с.-г., дабрабыту і культасьветная, пры Раднянскім с.-с. таго-ж раёну—дзьве сэкцыі—сельска-гаспадарчая і культасьветная, але гэтыя сэкцыі зусім не працуюць. А такія камісіі, як па палепшаньню быту жанчын зусім і не былі арганізаваны, а пры Дубровіцкім сельсавеце не была арганізавана таксама камісія па садзейнічаньню Дзяржкрэдыту.

У гэткім становішчы знаходзіцца праца (калі бязьдзейнасьць можна назваць працай) сэкцый і пры шэрагу іншых сельсаветаў Клімавіцкага раёну, ды ня толькі Клімавіцкага, а шмат якіх раёнаў БССР, аб чым неаднакратна пісалася ў друку.

Аднэй з асноўных прычын непрацаздольнасьці сэкцый і камісій пры сельсаветах зьяўляецца амаль-што поўная адсутнасьць увагі да іх работы і кіраваньня ёю з боку сельсаветаў і што ня менш важна проста ад няўменьня арганізоўваць і наладжваць работу сэкцый.

Сельсаветы не склікаюць нарад старшынь і членаў сэкцый, рэдка заслухоўваюць справаздачы сэкцый і камісій.

Сельсаветы не перадаюць у сэкцыі на папярэднюю прапрацоўку і падрыхтоўку пытаньняў, якія вырашаюцца Прэзыдыумамі і Пленумамі сельсаветаў, з прычыны чаго сэкцыі пазбаўляюцца магчымасьці ўдзельнічаць і дапамагаць сельсавету ў яго рабоце.

Зусім мала практыкуецца абсьледваньне сіламі сэкцыі разных сельскіх устаноў і штодзённы кантроль за іх дзейнасьцю, а таксама заслухоўваньне справаздач сельскіх устаноў на паседжаньнях сэкцый.

Другой ня менш важнай прычынай зьяўляецца недастатковая ўвага кіраваньню работай сэкцый пры сельсаветах і практычнай дапамогі апошнім у на-

ладжваньні іх работы—з боку вышэйстаячых выканкомаў.

Вышэйстаячыя выканкомы, асабліва ЦВК БССР, удзялялі ня мала ўвагі масавай рабоце саветаў, якой наддавалася вельмі значнае значэньне і вынасілася шмат добрых дырэктыў і пастаноў, але-ж АВК і РВК правядзеньню практычных мерапрыемстваў, у разьвіцьцё дадзеных дырэктыў, не аддавалі дастатковай увагі.

Часткова гэта тлумачыцца правадзімымі чарговымі палітычна-гаспадарчымі кампаніямі, з якімі месцы ня здолелі ўвязаць разгортваньне масавай работы, што лішні раз паказвае аб недастатковай ацэнцы таго, што добра наладжаная аргмасавая праца толькі-б і спрыяла лепшаму і больш пасьпяховаму правядзеньню гэтых кампаній. Лепшым прыкладам гэтага можа служыць Магілеўская акруга, аб масавай рабоце саветаў якой быў Прэзыдыумам ЦВК БССР заслухан спэцыяльны даклад Магілеўскага АВК і вынесена па ім адпаведная пастанова ад 27-I—30 г. У гэтай пастанове адзначалася, што „у пераважнай большасьці сельсаветаў камісіі працуюць слаба, альбо зусім бязьдзейнічаюць“... і прапанована „АВК зьвярнуць асаблівую ўвагу на палепшаньне масавай работы сельскіх і местачковых саветаў“. Ёсьць і шэраг іншых пунктаў аб увазе рабоце камісій, аб задачах сельсаветаў у зьвязку з каляктывізацыяй, веснавой сяўбы і г. д.

Але-ж гэтая пастанова Магілеўскім АВК ня была папулярызавана сярод вясковага актыву і нават не абмяркоўвалася на паседжаньнях сельсаветаў і сэкцый пры іх. І іменна адсутнасьцю сталай і належна разгорнутай масавай працы сэкцый сельсаветаў можа быць вытлумачана тое, што ў правядзеньні таго ці іншага пытаньня палітычна-гаспадарчай кампаніі наглядаліся шэраг цяжкасьцяй і адмоўных момантаў.

Трэцім фактарам слабай масавай працы сэкцый сельсаветаў зьяўляецца недастатковае ўцягненьне ў работу батрацтва і беднаты, а таксама вясковага актыву.

Значная колькасьць сельсаветаў слаба праводзіла працу з беднатой і мала займалася растлумачэньнем ім чарговых задач партыі і сав. улады на вёсцы.

Групы беднаты ў радзе сельсаветаў зусім ня былі арганізаваны, напрыклад, па 112 сельсаветах сямі раёнаў Магілеўскай акругі (па даным акр. к-ту партыі на 1-IV—30 г.) групы беднаты меліся толькі пры 71 сельсавеце.

Скажэньне клясавай лініі ў нарыхтоўках, перагібы пры правядзеньні калектывізацыі і інш. недахопы адзначаюцца ў большай колькасьці, як раз у тых раёнах, дзе адсутнічалі групы беднаты, ці дзе яны слаба працавалі.

Урэшце адным з самых важных фактараў непрацаздольнасьці сэкцый зьяўляецца тое, што разам з арганізацыяй сэкцыі пры сельсаветах для правядзеньня важнейшых кампаній ствараюцца розныя часовыя камісіі.

Так, пры Дубровіцкім і Раднянскім сельсаветах Клімавіцкага раёну былі створаны і працавалі шэраг наступных камісій: камісія па хлебанарыхтоўках, па спагнаньню страхоўкі, падаткаў і самаабкладаньню, камісія садзейнічаньня бульбанарыхтоўкам, садзейнічаньня лесанарыхтоўкам, 3-пазыцы індустрыялізацыі, камісія для правядзеньня дню ўраджая і калектывізацыі, камісія па правядзеньню пажарнага тыднёвіка, па правядзеньню дарожнай павіннасьці, па правядзеньню конкурсу на лепшы с.-г. раён і г. д.

Члены сельсавету і вясковы актыў уцягваліся таксама ў працу шэрагу іншых сталых і часовых камісій пры сельсавеце, як лясная камісія, інстытут аграўпаўнаважаных, санітарныя тройкі і г. д.

У некаторых раёнах існавалі яшчэ і іншыя формы масавай камісійнай працы, напр., пастановай Прэзыдыуму Шклоўскага РВК ад 14-III—30 г. запрапанована ўсім сельсаветам у самы хуткі тэрмін арганізаваць пры сельсаветах групы садзейнічаньня міліцыі ў барацьбе з усякімі злачынствамі і нагляду за вартай.

У працу гэтых камісій па правядзеньню розных кампаній, паколькі гэтай працы надавалася актуальнае значэньне і яна зьяўлялася ўдарнай, і ўцягваліся, галоўным чынам, члены сельсавету, групы беднаты і ўвесь вясковы актыў.

Уцягваньне ў работу гэтых камісій сельскага актыву, а таксама тое, што праца камісій праходзіла міма сэкцый сельсаветаў і зьяўляецца аднэй з галоўнейшых прычын бязьдзейнасьці сталых сэкцый пры сельсаветах.

Таксама міма сэкцый сельсаветаў праходзіць праца аграўпаўнаважаных, вэт. папячыцеляў і інш. ды і сельсаветы слаба кіруюць гэтай формай уцягненьня працоўных мас сялянства ў савецкае будаўніцтва.

Сельсаветы і сэкцыі пры іх рэдка заслухоўваюць даклады розных упаўнаважаных і не праводзяць з імі неабходнай працы.

Недастаткова роль с.-саветаў у кіраваньні гэткай вельмі важнай формай масавай працы, якою зьяўляюцца розныя добраахвотныя т-вы, як, напр., Аўтадор, Асоавіяхім і інш., якія ў значнай колькасьці выпадкаў вельмі слаба, альбо зусім не працуюць (Дубровіцкі, Раднянскі, Хатавіцкі сельсаветы, Клімавіцкага р-ну).

Недастаткова скарыстоўваецца таксама такая форма ўцягненьня мас у савецкае будаўніцтва, як выяздныя паседжаньні Пленумаў і Прэзыдыумаў сельсаветаў.

* * *

Шырока разгорнуты калгасны рух, які суправаджаецца вялізарным ростам палітычнай актыўнасьці батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі і ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы патрабуе неадкладнага разгортваньня масавай працы сельсаветаў праз сэкцыі пры іх, і рашучай перабудовы мэтадаў і форм гэтай работы, што павінна стаць аднэй з галоўнейшых баявых задач, як самых сельсаветаў, гэтак сама і вышэйстаячых выканкомаў.

І іменна ва умовах каляктывізацыі с. г.—сэкцыі сельсаветаў і масавая савецкая праца вакол іх упяршыню можа быць разгорнута так шырока, як таго вымагае рэканструкцыйны пэрыяд, бо палепшаньне ўмоў працы ў калгасах, прымяненьне ўдасканаленай тэхнікі—пакідае шмат вольнага часу, які можа быць скарыстан для грамадзкай працы наогул і па савецкаму будаўніцтву ў прыватнасьці. і што зьяўляецца асабліва важным— праз сэкцыі сельсаветаў можа быць шырока разгорнута самакрытыка, якой не хапае яшчэ ў дастатковай ступені нашаму калгаснаму будаўніцтву.

Масавая праца сельсаветаў павінна быць перабудавана пад лёзунгам: „масавую працу тварам да калгаснага будаўніцтва, тварам да сацыялістычнай перабудовы вёскі“.

Маючы гэта на ўвазе, асноўным стрыжанем масавай працы павінна зьявіцца згуртаваньне батрацка-бядняцкага і серадняцкага актыву вакол чарговых задач па сацыялістычнай перабудове вёскі і аказаньне праз яго пролетарскага ўплыву на ўсю астатнюю масу працоўнага сялянства і арганізацыі іх для сьвядомага і актыўнага удзелу ў сац. будаўніцтве і садзейнічаньня правядзеньню зьвязаных з ім мерапрыемств. Таму неабходна зьвярнуць асаблівую увагу на разгортваньне і перабудову працы сэкцыі пры сельсаветах, у прыватнасьці перабудовы с.-г. сэкцыі ў выворчыя нарады, а таксама арганізацыі бытавых камісій пры сельсаветах.

Працы сэкцый неабходна надаць плянавы характар, выходзячы з агульнага пляну працы сельсавету і РВК, пры чым пляны работ бытавых сэкцый павінны будавацца ў напрамку вызначэньня ролі жанчын у выкананьні задач па сацыялістычнаму будаўніцтву на вёсцы.

Для ажыўленьня працы сэкцый сельсаветаў трэба, у абавязковым парадку, практыкаваць папярэдняе абмеркаваньне на паседжаньнях сэкцый усіх важнейшых пытаньняў працы сельсаветаў.

Усе мерапрыемствы і працу, зьвязаную з правядзімымі чарговымі палітычна-гаспадарчымі кампаніямі, неабходна праводзіць выключна праз адпаведныя сэкцыі сельсаветаў.

Каб не распыляць сіл, пры сельсаветах павінны працаваць у асноўным наступныя камісіі (згодна новага палажэньня пра сельсаветы):

1) сельска-гаспадарчая,
2) культурна-сацыяльная і дабрабыту,
3) фінансава-бюджэтн. і садзейнічаньня Дзяржкрэдыту і
4) бытавая сэкцыя.

Сэкцыі павінны быць рухавымі, хутка вырашаючымі пытаньні, павінны быць ударным, баявым апаратам сельсавету.

Для правядзеньня тых ці іншых практычных заданьняў з складу сэкцыі могуць вылучацца сталыя, альбо часовыя камісіі, ударныя групы, ці брыгады з уцягненьнем у іх працу сельскага актыву.

З сталых груп, ці брыгад, якія могуць быць вылучаны з сэкцыі, можна вызна-

чыць напр. па камунальнай сэкцыі—групы дарожную і пажарную, па культбытавой сэкцыі—групы санітарную, культасьветную, па с.-г.—група ці брыгада па паляводзтву, па жывёлагадоўлі, па садоўніцтву і агародніцтву і г. д.

Сэкцыі і групы павінны аб'яднаць і кіраваць працай розных упаўнаважаных сельсавету, як культупаўнаважаных, аграўпаўнаважных, стат. упаўнаважаных і г. д.

У асобных выпадках могуць быць створаны і зьмешаныя групы ці брыгады з членаў розных сэкцый для правядзеньня асабліва ўдарных заданьняў, як, напр., група па раскулачваньню, ці група па правядзеньню кантрактацыі і інш.

Цэнтр увагі правядзімай працы сэкцыі, павінна сканцэнтраваць на рэгуляваньне вытворчасьці калгасаў.

Кожная група ці брыгада, як і ўся сэкцыя ў сваёй працы цесна ўвязваецца з адпаведнымі камісіямі і асобнымі брыгадзірамі ў калгасах, накіроўваючы і кантралюючы іх працу, напр., група, ці брыгада па паляводзтву с.-г. сэкцыі зьвязваецца з вытворчай нарадай, ці асобнымі вытворчымі брыгадамі калгасу.

Асноўным зьместам працы сэкцый павінны зьявіцца мэтавыя абсьледваньні асобных галін працы сельсаветаў, калгасаў, а таксама прадпрыемств і ўстаноў пры іх, распрацоўка сэкцыямі на падставе матар'ялаў абсьледваньня канкрэтных мерапрыёмств па зьніжэньню заўважаных недахопаў і прапаноў для іх ізжыцьця; сэкцыі павінны таксама прыняць удзел у распрацоўцы плянаў сельсаветаў і вытворчых плянаў калгасаў і г. д.

Праз сэкцыі і групы сельсаветы павінны таксама арганізоўваць масавую праверку выкананьня калгасамі сваіх вытворчых плянаў, выкананьне плянаў кантрактацыі і інш., заслухоўваць на пленумах с.-с. і сэкцый, даклады аб агульнай пастаноўцы гаспадаркі ў калгасах і асобных галін гаспадаркі.

У калгасах неабходна арганізоўваць дэпутацкія групы, якія павінны абмяркоўваць розныя пытаньні гаспадарчага і культурна-бытавога жыцьця калгасаў.

Дэпутацкія групы ў сваёй працы павінны цесна ўвязвацца з адпаведнымі сэкцыямі сельсавету. Адпаведна ўся ўнутры калгасная масавая праца (стварэньне розных камісій—бытавых, культурных і г. д.) павінна праходзіць у цеснай увязцы з адпаведнай працай сельсаветаў і іх сэкцый і пад іх агульным кіраўніцтвам.

Такая перабудова працы сэкцый патрабуе таго, каб, паміма іх, не ўтвараліся ніякія іншыя самастойныя камісіі з аналёгічнымі задачамі, у зьвязку з чым усе паралельна існуючыя камісіі павінны ўліцца ў адпаведныя сэкцыі, якім і трэба перадаваць працу гэтых камісій.

Паказанае выклікае неабходнасьць значнага пашырэньня правоў сэкцый. Яны павінны атрымаць права канчатковага вырашэньня ўсіх пытаньняў бягучага і практычнага характару, за выключэньнем маючых важнае і прынцыповае значэньне, якія з думкай сэкцыі пераносяцца на Пленум сельсавету, напр., фінансава-падатковай сэкцыі можа быць дадзена права разгляду скарг у першай інстанцыі на няправільнае налічэньне с.-г падатку, ці няправільнага уліку аб'ектаў абкладаньня і г. д.

Для дакладнага акрэсьленьня правоў і абавязкаў асобных сэкцый неабходна апрацаваць палажэньне пра працу кожнай сэкцыі накшталт выдадзенага палажэньня пра с.-г. вытворчыя нарады пры сельсаветах.

Для ажыўленьня працы сэкцыі неабходна практыкаваць у плянавым парадку больш частае заслухоўваньне дакладаў сэкцый аб іх працы ў цэлым ці па асобным галінам іх працы, а таксама дакладаў аграўпаўнаважаных і інш. на паседжаньнях пленумаў і Прэзыдыумаў сельсаветаў і РВК, у прыватнасьці на іх выяздных паседжаньнях у тэй ці інш. вёсцы, з абавязковым удзелам прадстаўнікоў сельсавету, праўленьня калгасу, актыву калгасьнікаў, батрацка-бядняцкіх груп.

Неабходна таксама ставіць справаздачы сэкцый на сходах батрацтва і беднаты, дэлегацкіх жаночых сходах і г. д.

Вельмі карысным было-б таксама заслухоўваньне дакладаў сэкцыі аднаго сельсавету на паседжаньнях аднаімённай сэкцыі другога сельсавету, што можа таксама быць выкарыстана для арганізацыі паміж імі сацыялістычнага спаборніцтва.

У зьвязку з тым, што на мейсцох непрацаздольнасьць сэкцыі залежыць часта ад няўменьня арганізоўваць працу, неаб-

ходна правясьці масавую падрыхтоўку і перападрыхтоўку старшынь сэкцыі праз пораёнными курсы-канфэрэнцыі.

Неабходна таксама забясьпечыць узмацненьне жывога кіраўніцтва працай сэкцыі з боку вышэйстаячых выканкомаў і практычнай дапамогі сэкцыям у наладжваньні працы і вучоту яе.

Гэта павіннна быць задачай ня толькі аргінструктарскага апарату РВК і АВК, але і ўсіх інспэктароў і работнікаў спэц. галін працы (інспэктура Нарасьветы, Аховы-Здароўя, Камунальнай справы, каапэрацыі і інш.), усе выезды якіх у сельсавет, у абавязковым парадку, павінны быць скарыстаны для ажыўленьня масавай працы і практычнай дапамогі ў працы адпаведнай сэкцыі сельсавету, шляхам уцягненьня апошніх у абсьледваньні (школ, лекавых устаноў, каапэратываў і інш.) і ставячы на абмеркаваньне адпаведных сэкцый вынікаў абсьледваньняў, перад абмеркаваньнем іх на паседжаньнях сельсаветаў.

Аднэй з пасьпяховых умоў разгортваньня масавай працы зьяўляецца падвядзеньне пад дзейнасьць сельсавету матар'яльнай базы, для чаго неабходна ўвесьці ў сельсаветах сельбюджэты, асабліва ў раёнах масавай калектывізацыі.

Для ўзмацненьня масавай працы сельсаветаў неабходна арганізаваць шэфства сэкцыі гарсаветаў над асобнымі сельсаветамі ці іх сэкцыямі, практыкуючы заслухоўваньне дакладаў сэкцыі падшэфных сельсаветаў на паседжаньнях сэкцыі—шэфаў і наадварот.

Неабходна таксама ўнесьці яснасьць у парадак камплектаваньня сэкцый, для ўзьняцьця аўтарытэту сэкцый — члены гэткіх павінны абірацца на агульных сходах бядняцка-серадняцкага сялянства, або на агульных сходах адпаведных грамадзкіх арганізацый і зацьвярджацца пастановай сельсавету, напр., мясцовая ячэйка Аўтадору можа дэлегіраваць сваіх прадстаўнікоў для ўдзелу ў рабоце камунальнай сэкцыі шляхам выбараў гэтакіх на агульным сходзе членаў Аўтадору.

Гэта ўзьніме адказнасьць членаў сэкцыі за сваю працу ў сэкцыі.

Склад сэкцыі павінен папярэдне абмяркоўвацца на паседжаньнях груп беднаты і потым зацьвярджацца сельсаветам, што ў значнай ступені зробіць немагчымым пранікнавеньне клясава - чуждых элемэнтаў у склад сэкцыі.

Камплектаваньне сэкцый неабходна рабіць такім чынам, каб у іх была забясьпечана кіруючая роля батрацтва і беднаты, якія павінны стаць асноўным ядром і апорай сэкцыі, што само па сабе у значнай частцы забясьпечыць захаваньне клясавай лініі ў іх працы.

Для гэтага пры ўсіх с-с. неадкладна павінны быць вылучаны батрацка-бядняцкія групы з членаў с-с., з аб'яднаньнем вакол іх на падставе плянавай працы усёй батрацка-бядняцкай масы вёскі.

Групы беднаты павінны актыўна удзельнічаць у папярэдняй прапрацоўцы усіх плянавых, усіх важнейшых пытаньняў бягучай працы сельсавету.

Павінна быць прыняты усе меры да уцягненьня ў працу груп беднаты—батрачак і бядначак, шляхам дачы ім асобных практычных заданьняў.

Аднэй з важнейшых задач масавай савецкай работы павінна быць стварэньне моцнага актыву з батракоў, беднякоў і лепшай часткі сераднякоў, у прыватнасьці з жанчын, выяўляючы з іх, праз групы беднаты, найбольш стойкіх і вытрыманых для вылучэньня іх на кіруючую працу у савецкім і калгасным будаўніцтве.

Неабходна таксама для практычнай працы сэкцый прыцягваць мясцовыя культурныя сілы.

С-с. і сэкцыям пры іх неабходна зьвярнуць таксама асаблівую увагу на ажыўленьне работ дабраахвотных грамадзкіх арганізацый на вёсцы.

* * *

Масавая работа сельсаветаў зьяўляецца лепшым паказацелем іх здольнасьці правільна ажыцьцяўляць задачы партыі і сав. улады па сацыялістычнай перабудове вёскі.

Посьпехі у сацыялістычным будаўніцтве на вёсцы у значнай ступені залежаць ад усямернага разьвіцьця масавай савецкай працы, праз батрацка-бядняцкія групы, сэкцыі сельсаветаў, ад наладжваньня сапраўды масавага контролю гэтых арганізацый над усёй палітычнай, гаспадарчай і культурна-бытавой дзейнасьцю сельсаветаў і калгасаў.

**Е. Нехлюдаў.**

# Як с/саветы кіруюць калектывамі

*(Сьмілаўскі раён, Менскай акругі)*

На сельскія саветы ускладзены абавязкі кіраваць калгасамі, але сельсаветы Сьмілаўскага раёну гэтага ня робяць (можа ня ведаюць?) і зусім ня кіруюць калгасамі. Апошнія ня ведаюць, ці трэба, узгадняць пляны асеньняй сяўбы і уборачнай кампаніі с/саветамі, ці не. Напрыклад, на пасяджэньні прэзыдыуму і пленуму Рудзенскага с/савету ніводнага разу не заслухоўвалася пытаньне аб ходзе уборачнай кампаніі і вясеньняй сяўбы. Ні разу не заслухоўвалася справаздача таго ці іншага калгасу, як абстаяць справы ў калгасе і ці зьяўляюцца калгасы прыкладнымі сацыялістычнымі гаспадаркамі для паасобных бядняцка - серадняцкіх гаспадарак? Між тым, у Рудзенскім с/савеце налічваецца шэсьць калгасаў („Новы шлях", „Вясёлае жыцьцё", „Бязбожнік", „Чырвоная Зьмена", „Гаспадар", „Савецкая Беларусь"), якія займаюць 30% усяе тэрыторыі с/с. Сельсавет гэтымі калгасамі ня кіруе, ён ня ведае іх унутранага становішча.

Калгасы перавыканалі пляны сяўбы, але практычнай дапамогі бядняцкім і маламоцным серадняцкім гаспадаркам яны не аказалі; замест гэтага ў калгасе „Чырвоная Зьмена" калгасьнікі з некалгасьнікамі кепска жывуць, часта сварацца.

Такое-ж становішча як у Руденску мы маем і ў Дукорскім с/савеце.

Большая палова членаў с/савету не зьяўляецца калгасьнікамі, наглядаюцца выпадкі, калі сябры с/с. адчынена выступаюць супроць калектывізацыі. Жанчыны члены с/савету таксама не ў калгасах і гэтым даюць кепскі прыклад бядняцка-серадняцкаму сялянству.

Не адстае і Голацкі с/савет, які ня цікавіцца жыцьцём камуны „імя тав. Фрунзэ".

Між тым гэта камуна зьяўляецца прыкладам для акаляючага сялянства.

РВК і с/саветам трэба штодзенна кіраваць калгасамі, ведаць іх жыцьцё.

**Фрыд.**

---

# Праца сельсаветаў кульгае

Ціхінскі с/савет адзін з самых вялікіх у Рагачэўскім раёне, але пастаноўкай сваей працы ён ня можа быць паказальным у параўнаньні з іншымі. Масавая работа пастаўлена дрэнна, ня гледзячы на тое, што с/савет аброс цэлым шэрагам установ, якія-б значна дапамагалі разгортваньню масавай работы. Камісіі пры сельсавеце існуюць толькі на паперы, напрыклад, культасьветная. Яна сябе нічым не праявіла, а цяпер, у сувязі з культурным будаўніцтвам, працы ей хапае. Выдзелены кіраўнік гэтай сэкцыі ліча „дробязьзю" праводзіць якуюнебудзь працу у ёй, адгэтуль мы маем такія прарэхі, што усеагульнае навучаньне па Ціхінцах сарвана. Адносна другіх сэкцый можна таксама адзначыць, што яны ад культасьветнай сэкцыі далёка не адышлі. Трэба адзначыць, што члены с/савету, дзякуючы гэтаму, у працу ня ўцягнуты. Аб гэтым сьведчыць і тое, што яны у час каляктывізацыі самі не запісаліся ў калгасы, на сходах нават некаторыя вялі сябе антысавецкі, а выхаваньня сярод іх не вядзецца ніякага. Сельсавет займаецца больш адміністраваньнем, чым арганізацыйнай працай, аб чым сьведчыць выпадак адміністрацыйнага зачыненьня царквы, сінагогі, якія потым праз некаторы час зноў былі адчынены. Сам старшыня няўважліва адносіцца да наведвальнікаў, часта крычыць, або зусім не адказвае на запытаньні сялян. Усё гэта сьведчыць аб тым, што сельсавет не спраўляецца з пастаўленымі перад ім задачамі у цяперашні час, калі на базе суцэльнай калектывізацыі кулацтва ліквідуецца як кляс.

**„Ш".**

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

## Аб беларусізацыі ў Шклоўскім РВК

Здаецца аб беларусізацыі гаварыць ня прыходзіцца, таму, што пачынаючы з 1924 году, было цэлы шэраг пастаноў і распараджэньняў з боку вышэйшых органаў як партыйных, так і савецкіх. Але, ня гледзячы на гэтыя пастановы, справа з беларусізацыяй па некаторых установах Шклоўскага раёну абстаіць нездавальняюча. Назіраюцца фармальныя адносіны працаўнікоў да беларусізацыі.

Як абстаіць справа з беларусізацыяй у Шклоўскім Райвыканкоме.

Калі ні слова не гаварыць з працаўнікамі гэтай установы, а прагледзець толькі перапіску, як рахункаводзтва, справаводзтва і г. д., дык падумаеш, што справа з беларусізацыяй абстаіць добра.

Усе часткі, за выключэньнем ваенстала, усю перапіску вядуць на белмове.

Другая справа, калі патрабуецца зьвярнуцца ды пагаварыць з кім-нб., дык рэдка можна пачуць беларускае слова, за выключэньнем інспэктара асьветы, старшыні земчасткі, валютнага інспэктара і да некаторай ступені—старшыні РВК.

Нельга сказаць, што працаўнікі ня ведаюць беларускай мовы. Яны добра ведаюць, але імкненьня гаварыць на белмове у іх няма.

Запытаешся у працаўнікоў „Чаму вы не размаўляеце на белмове? Адказваюць, што няма з кім гаварыць. Яны, бачыце, лічуць, што селянін гаворыць з імі па расейску. Гутаркі паміж працаўнікамі адбываюцца таксама на расейскай мове.

Выходзіць для гэтых працаўнікоў, што мова беларуская існуе толькі для таго, каб напісаць паперы-адносіны у розныя ўстановы. Нацкамісія 10-га чэрвеня г.г. праверыла ступень выкананьня беларусізацыі у Шклоўскім РВК і дала апошняе папярэджаньне працаўнікам бухгальтэрыі, справаводам, каб ад фармальнасьці перашлі на сапраўдную беларускую мову. Хужэй абстаіць справа з беларусізацыяй у спажывецкай каапэрацыі.

Амаль правільна ахарактарызаваў становішча сам старшыня праўленьня каапэрацыі, кажучы: „У нас рахункаводзтва вядзецца і наогул пішуць па-беларуску, а гаварыць па-беларуску ня можа ніхто".

Калі магчыма так выказацца, дык там займаюцца „очковтирательством". Адносіны у г. Магілёў, Менск, Воршу і інш. пішуць па-беларуску, бо бачыце гэта вышэйшыя установы, а ўнутраная перапіска, як загады, адносіны ў РВК, на біржу працы, у саюз, загадчыкам крам—гэта ўсё пішацца па расейску.

Нават, умудрыліся выпіску з пастановы пасяджэньня Праўленьня, напісаную на белмове, даць на расейскай мове.

Ёсьць моманты, дзе працаўнікі накіроўвалі адносіну у РСФСР па-беларуску і адгэтуль вярнулі яе назад.

Гэта гаворыць аб тым, што працаўнікі не разумеюць нацыянальнай палітыкі. Новыя працаўнікі зусім ня ведаюць беларускай мовы. Нацкамісія дала тэрмін, за які, шляхам заняткаў на каротка-тэрміновых курсах, гэтыя працаўнікі павінны будуць ліквідаваць сваю беларускую няпісьменнасьць.

Такія фармальныя адносіны да беларусізацыі назіраюцца у шэрагу іншых устаноў, як Райкалгассаюз, Страхкасса, Лесбел і інш. Толькі праверка узрухнула у іх справу беларусізацыі. **Г. Шумілаў.**

## Акопскі нацсавет без раённага кіраўніцтва

*(Мазыршчына, Нараўлянскі р.)*

Работа сельсаветаў, асабліва на даным этапе сацыялістычнага будаўніцтва, патрабуе да сябе вялікай увагі, кіраўніцтва і дапамогі з боку вышэйстаячых кіруючых органаў. Гэта пакуль няўсьведомлена Нараўлянскім райвыканкомам, які амаль забыўся, што ў яго раёне існуюць саветы, патрабуючыя да сябе з боку РВК належнага кіраўніцтва і дапамогі. Гэта з асаблівай яснасьцю вы-

явілася пры абсьледваньні інструктарам АВК т. Родкіным Акопскага Украінскага нацсавету.

У матар'ялах абсьледваньня канстатавана, што кіраўніцтва з боку Райвыканкому Акопскім нацыянальным саветам праводзіцца вельмі недастаткова, бо ніводнага разу на працягу апошняга году ня было зроблена абсьледваньне працы савету і інструктаваньне інструктарам РВК.

Ня быў заслухан даклад савету на Райвыканкоме.

З прычыны такога кіраўніцтва мы маем і дрэнную працу ў гэтым савеце.

### Праца з беднатой

Групы беднаты не арганізаваны ў той час, калі беднякі складаюць 43 проц. у складзе савету. Праўда, за ўвесь год праведзена 10 сходаў беднаты, але яны праводзіліся, як уся праца з беднатой, кампанейскім парадкам, сталая праца з беднатой не праводзіцца.

Няма ніякай працы з боку сельсавету ў галіне абароны батрацтва.

Вучоту батракоў у сельскім савеце няма, савет ня ведае, колькі батракоў налічваецца ў сельсавеце і аб тым ці заключаны на іх калектыўныя ўмовы. Прэзыдыум сельсавету ні разу пытаньнем аб працы сярод батрацтва не займаўся. Ня ўтворан таксама і фонд дапамогі батрацтву па лініі Камітэту ўзаемадапамогі.

Дапамога беднаце з боку сельсавета і СКСТУ у час вясеньнай сяўбы амаль не аказвалася; выдана толькі 108 бядняцкім гаспадаркам семянной суды 125 п. аўсу і 20 руб. грашыма. Прадстаўленьне льгот беднаце учытвалася толькі па страхоўцы і самаабкладаньні, а па астатніх галінах вучоту ня было. З боку Райвыканкому і ў гэтай галіне працы ня было ні кіраўніцтва, ні належных паказаньняў, ня было таксама і контролю, што сельсавет у гэтай галіне робіць.

### Праца сельсавету ў галіне калектывізацыі

Пытаньнем калектывізацыі сельсавет не займаўся. Толькі адзін раз стаяла на сельсавеце пытаньне аб калектывізацыі і то ў бягучых справах. Непасрэднае кіраўніцтва калгасамі з боку сельсавета зусім адсутнічае; больш таго, у пытаньні адводу зямель сельсаветам кіравала праўленьне калгасу. У пасеўкампаніі сельсавет забыўся і аб індывідуальным сэктары. Таксама дрэнна абстаіць справа з растлумачэньнем насельніцтву новага закону аб с.-г. падатку на 1930-31 г. і закона аб льготах калгасьнікам.

### Праца прэзыдыуму і ўсіх членаў савету

У рабоце прэзыдыуму савету ня было плянавасьці і рэгулярнасьці.

За ўвесь год хоць і адбылося 8 пленумаў і 11 пасяджэньняў прэзыдыуму, але-ж на іх займалі галоўнае месца пытаньні другараднага значэньня (катэгорыя, так зван., іншых пытаньняў); такія-ж пытаньні, як калгаснае будаўніцтва, сталі толькі 1 раз на прэзыдыуму. Праца з беднатой і батрацтвам ні на пленумах, ні на прэзыдыуме не стаяла; аб працы камісій разглядалася пытаньне толькі 1 раз (на пленуме), ахова здароўя ні разу не стаяла, аб каапэраваньні насельніцтва ні разу, аб пасеўкампаніях 3 разы на пленумах і 4 на прэзыдыумах, падатковыя таксама 3 на пленумах і 4 на прэзыдыумах. За тое іншыя пытаньні— 20 на пленумах і 122 на прэзыдыумах.

Папярэдняй падрыхтоўкі ўносімых на пленумы і прэзыдыумы пытаньняў ня было, уносіліся яны старшынёй сельсавета альбо прадстаўнікамі Райвыканкому.

Частка членаў сельсавету зусім не працавала і не жадала працаваць, але, ня гледзячы на гэта, датэрміновае адклікаsuccessful таких членаў не практыкавалася ў савеце.

### Нацпалітыка

Акопскі нацсавет арганізаван як нацыянальны толькі ў 1929 годзе.

З боку Райвыканкому за ўвесь час пасьля яго арганізацыі ня была зьвернута ўвага гэтаму савету як нацыянальнаму. Адсюль вынік,—да гэтага часу савет усю сваю працу вядзе на беларускай мове. Нават сакратаром савету зьяўляецца беларус, які украінскую мову ня ведае. Больш таго, сам Райвыканком

на адносіны савету, напісаныя пад час на украінскай мове, адказвае ім на беларускай мове. Апарат, РВК такім чынам не прыстасаваны да абслугоўваньня нацменшасьцяй.

**Ачкоўцірацельства з боку РВК**

І ўсё-ж Нараўлянскі Райвыканком у красавіку гэтага году паведаміў ЦВК, што групы беднаты пры сельсаветах арганізаваны, камісіі бытавыя складзены, што усё абстаіць як належыць, а ў сапраўднасьці нічога гэтага няма.

**Новы склад савету забясьпечан батрацка-бядняцкай апорай**

Перавыбары савету прайшлі ў гэтым годзе пры значна ўзросшай актыўнасьці выбаршчыкаў. Так, калі ў 1929 г. яўка на выбары складала па савету 40 проц., а сярод жанчын 23,3 проц., дык у гэтым годзе агульная яўка была 63,2 проц., а сярод жанчын 60,0 проц.

У савет абрана: сельгасп. рабочых і батракоў 3 (12,0 проц., у мінулым годзе ня было), сялян аслабанёных ад падатку 9 (36,0 проц., а ў мінулым годзе было 30,0 проц.), сялян сераднякоў 13 (52,0 проц, а ў мінулым годзе было 70,0 проц.).

Далейшае разгортваньне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, узрастаючая актыўнасьць пралетарскіх мас, патрабуюць усямернага ўзмацненьня органаў пралетарскай дыктатуры ў вёсцы і іх непасрэдных кіруючых цэнтрах—Райвыканкомах.

Н.

---

# Як працуе Шчадрынскі местачковы нацсавет

Местачковы савет як савет нацыянальны, за апошні час мае некаторыя дасягненьні у сваёй штодзеннай працы. Аб гэтым гаворыць і тое, што ў калгас, які арганізаваны пры непасрэдным удзеле савета, увайшло 70 проц. гаспадарак. Больш-менш здавальняюча праведзены былі кампаніі па хлебным і бульбяным загатоўкам. Самаабкладаньне поўнасьцю сабрана.

Пры самым Нацсавеце арганізавана і стала працуе група беднаты, праз якую праходзіла і праходзіць папярэдняя прапрацоўка важнейшых палітычных і гаспадарчых пытаньняў.

Гэта ўсе становучыя бакі работы савета. Пераходзячы да адмоўных бакоў, якія таксама маюцца, трэба адзначыць, што у савеце дрэнна пастаўлена масавая работа, што тлумачыцца недастатковым уцягненьнем у работу савета яго членаў і, як вынік з усяго гэтага, сэкцыі савета працуюць не рэгулярна.

Мала што зроблена і ў адносінах палепшаньня быту працоўных жанчын, каб не сказаць, што зусім нічога ня зроблена у гэтай галіне.

Савет не зварочвае дастатковае ўвагі і пытаньням сацыялістычнага спаборніцтва, як у сваёй рабоце, таксама і ў арганізаваным калгасе. Тут мы маем недаацэнку з боку савета да сацспаборніцтва.

Нельга сказаць, каб савет ужо добра кіраваў дзейнасьцю розных грамадзкіх і добраахвотных арганізацый. Тут наглядаецца сьпячка.

Яшчэ горш справа абстаіць з культасьветнай работай у мястэчку.

Лікпункты доўгі час знаходзіліся у стадыі арганізацыі, а калі арганізаваліся – то да працы яны ня приступілі і разваліліся. Хата-чытальня, якая маецца адна на усё мястэчка, зусім не адчуваецца, як культурны асяродак працоўнага насельніцтва мястэчка.

Савет не займаўся пытаньнем абслугоўваньня школы на роднай мове дзяцей беларусоў, якія пражываюць на тэрыторыі мястэчка, у выніку чаго дзеці беларусоў наведвалі яўрэйскую школу.

Савет мала што зрабіў і ў адносінах папулярызацыі нацпалітыкі савецкай улады сярод працоўных мас, а таксама і мала займаўся справаю папулярызацыі сярод насельніцтва агра і зоомінімуму і уцягненьнем у практычную работу агра-ўпаўнаважаных.

Нацсавет яшчэ і па сёньнешні дзень не удзяляе дастатковае увагі папулярызацыі сярод працоўнага насельніцтва

новага закону аб льготах па сельскагаспадарчаму падатку і наогул не зьвяртае досыць сур'ёзнае увагі на сваячасовую папулярызацыю тых ці іншых мерапрыемстваў савецкае улады, якія цалкам накіраваны на палепшаньне і разьвіцьцё сельскае гаспадаркі.

У такім выглядзе, у якім знаходзіцца ў сучасны момант Шчадрынскі нацсавет, ён заставацца надалей ня можа. Неабходна, выходзячы з тых агульных задач, якія пастаўлены партыяй і савецкаю уладаю перад саветамі,—зараз-жа узмацніць работу савета ва ўсіх яго галінах дзейнасьці, а для гэтага патрэбна развярушыць работу сэкцый пры савеце, каб апошнія запрацавалі у напрамку папярэдніх прапрацовак асноўных пытаньняў гаспадарчага і культурна-бытавога характару. Неабходна дабіцца гэтага становішча, каб у сэкцыях работалі пагалоўна усе члены і кандыдаты у члены савету, шырокі актыў калгасьнікаў, жанчыны-дэлегаткі і камсамольцы.

Асяродкам усяе работы местачковага савету павінна зьявіцца сыстэматычнае гаспадарчае замацаваньне калгасаў, як па лініі арганізацыі працы, так і па лініі ўздыму вытворчасьці працы і сваячасовай падрыхтоўкі да асеньняй пасеўнай кампаніі.

Паміж сэкцыямі савета павінна быць разгорнута ва ўсю шырыню сацспаборніцтва на лепшую пастаноўку работы, а таксама і паміж местачковым саветам з іншымі саветамі. Пры чым, сацспаборніцтвам у аднолькавай ступені павінны быць ахоплены і калгасы.

Павінна быць ажыўлена работа местачковай хаты-чытальні у напрамку больш шырокага абслугоўваньня яўрэйскага насельніцтва на іх роднай мове, а ў зімовы час трэба арганізаваць неабходную колькасьць лікпунктаў і груп малапісьменных для дзяцей перарасткаў, а таксама і дарослых.

Бабруйскаму Акрінспэктарыяту народнай асьветы у сваю чаргу трэба паклапаціцца аб тым, каб з новага навучальнага году арганізаваць пры школе групу для дзяцей беларусоў, а таксама і для абслугоўваньня дарослых.

Не пакідаць без адпаведнае увагі і пытаньне жывёлагадоўлі.

Парыцкі-ж райвыканком у сваёй далейшай рабоце павінен больш стала ажыцьцяўляць кіраўніцтва работаю местачковага савету і ўсямерна дапамагаць апошняму ў ажыцьцяўленьні стаячых задач перад Шчадрынскім саветам, як саветам нацыянальным (нацыянальным па форме, пралетарскім па зьместу).

Вось у кароткіх рысах усё тое, як местачковы савет працуе, якія дадатныя і адмоўныя бакі ў яго рабоце і як ён павінен заработаць на далейшы час.

С.

# ПРАЦА РАЁННЫХ ВЫКАНАЎЧЫХ КАМІТЭТАЎ

## Праца Копыскага РВК

Калі казаць аб неабходных спрыяючых умовах для працы, то лепшых умоў, як у Копыскім раёне і шукаць ня прыходзіцца. У гэтым раёне маюцца заводы (кафляныя і ізразцовыя), у якіх згрупавана значная колькасьць рабочых, ёсьць значная колькасьць батрацтва і савецкага актыву з лепшай часткі бядняцка-серадняцкай масы сялянства і г. д. Між тым, ня гледзячы на ўсё гэта, райвыканком працаваў дрэнна. Ён з цэлым шэрагам важнейшых мерапрыемстваў, як кіраўніцтвам арганізацыйна-масавай работаю сельскіх саветаў, з працаю сярод беднаты, з калектывізацыяй сельскай гаспадаркі, выкананьнем бюджэту, арганізацыяй мясцовай прамысловасьці і г. д. і г. д. ня справіўся.

Чым-жа гэта тлумачыцца і ў чым корань дрэннай работы райвыканкому? Уся бяда у тым, што калектывізацыя сельскай гаспадаркі, якая з колькаснага боку ўзрастала ў сьнежні—лютым месяцох, праводзілася агіднымі мэтадамі—гэта голым адміністраваньнем. „Ура—калектывізатары“ усіх тых асоб, якія не жадалі ісьці ў калгасы, бралі на „асобны“ вучот і нават пазбаўлялі выбарчага права.

Ніякай шырокай растлумачальнай працы сярод рабочых, батракоў, беднаты і серадняцтва па пытаньнях калектывізацыі не праводзілася. А ўжо аб якой-небудзь рабоце сярод груп беднаты і казаць ня прыходзіцца. Яе ня было.

Новы статут с.-г. арцелі і дырэктывы кіруючых партыйных органаў па пытаньню выпраўленьня памылак, якія былі дапушчаны пры правядзеньні калектывізацыі сельскае гаспадаркі і ўзмацненьня работы ў гэтым напрамку,—райвыканкомам папулярызаваны з вялікімі спазьненьнямі.

Надзвычайна цікава праводзілася і ліквідацыя кулацтва, як клясы. Батрацтва і бедната да гэтае работы былі недапушчаны, бо „ура—калектывізатары“ з раённага цэнтру гэтую працу праводзілі самі самастойна. У раскулачваемых асоб забіралі ня толькі каштоўныя рэчы, але нават лыжкі, прадзіраўленыя лісты і чапёлы. Былі і такія здарэньні, калі забраная маемасьць разлаквалася па хатах асобных калгасьнікаў, а па пяці сельсаветах раёну яшчэ і да гэтага часу адсутнічае дасканалы вучот забранай маемасьці з кулацкіх гаспадарак, якая у большасьці сваёй знаходзіцца ў безгаспадарчым становішчы.

Усё гэта прывяло да таго, што арганізаваныя „калгасы-гіганты“ (калектывізаваная плошча раёну раўнялася 72 пр.) разваліліся і засталося калектывізаванай плошчы ня больш як 13—15 проц. Пасьля таго, як разваліліся гэтыя „гіганты“, райвыканком у сваёй рабоце не зьвярвуў належнае ўвагі і на своячасовую арганізацыю вясеньняга севу, таму апошні праходзіў надзвычайна марудна.

Кантрактацыя зернавых культур і жывёлы, як сярод замацаваўшыхся калгасаў, так і індывідуальнага сэктару ідзе дрэнна. Крэдыты, якія былі адпушчаны для гэтае мэты, поўнасьцю не скарыстаны.

Райвыканком, а таксама і саветы, пытаньнямі становішча работы сярод беднаты і справамі арганізацыйна-масавай работы займаліся зусім мала, чаму актыўнасьць рабочых, батрацтва, беднаты і лепшай часткі серадняцтва ў практычнай рабоце саветаў амаль што зусім не выкарыстоўваецца.

Члены прэзыдыуму райвыканкому не ўдзяляюць дастатковае ўвагі жывому кіраўніцтву сельсаветамі, а кіруючыя працаўнікі прэзыдыуму выезды ў сельсаветаў робяць надзвычайна рэдка.

Бюджэты сельскіх і местачковага савету, як база разгортваньня масавай работы саветаў, сярод працоўных мас раёну не папулярызаваліся. На пленумах саветаў гэтыя бюджэты не абгаварваліся і не зацьвярждаліся і складаліся выключна фінансавую часткаю райвыканкому. Мала гэтага. Саветы, у якіх маюцца ўлас-

ныя бюджэты, нічога аб іх ня ведаюць і імі не распараджаюцца. Гэтыя галавацяпскія адносіны да справы мабілізацыі ўвагі саветаў і іх актыву навокал выкананьня бюджэту далі такі вынік, што прыбытковая частка (бюджэту) за першае паўгодзьдзе бягучага году выканана ўсяго на 32 проц.

У працы сельсаветаў адсутнічае сыстэматычны напрамак на залучэньне ў работу саветаў—членаў саветаў жанчын. Дэлегаткі-практыканткі да райвыканкому і саветаў не прымацаваны.

Асобнымі саветамі дапушчаны грубейшыя парушэньні інструкцыі аб выбарах у саветы. Пазбаўлялі выбарчага права толькі за тое, што тэй ці іншы грамадзянін выступаў з думкаю аб няправільных мэтадах працы ў правядзеньні калектывізацыі. Пазбаўлялі выбарчых правоў усіх вартаўнікоў касьцёлаў, стараст і старшынь царкоўных саветаў, а райвыканком глядзеў на гэтыя беззаконьні спусьця рукавы.

Кіраваньне дзяржаўнаю прамысловасьцю, якая знаходзіцца на тэрыторыі раёну, ажыцьцяўляецца слаба. Аб гэтым нам гаворыць і тое, што на працягу году ня быў заслуханы даклад дырэктара заводу „Пралетары“, у той час, калі на гэтым заводзе прамфінплян ня выконваецца (замест зьніжэньня сабекошту прадукцыі ў першым квартале згодна пляну на 7 проц., адбылося павышэньне на 0,11 проц. Вытворчасьць працы, замест росту на 11 проц., узрасла толькі на 1,7 проц.).

Аршанскі акрвыканком з усяго гэтага ўжо зрабіў пэўныя вынікі. Неабходна, каб акруговая пракуратура хутчэй скончыла сьледзтва ў адносіне тых працаўнікоў, якія тварылі вышэйпералічаныя безабразьзі і прыцягнула вінаватых да судовай адказнасьці.

Раённы выканаўчы камітэт павінен ужыць самыя рашучыя захады да таго, каб разгарнуць і сыстэматычна праводзіць работу сярод батрацтва і беднаты, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ажыўленьне работы груп беднаты пры саветах, дабіваючыся ў рабоце іх плянавасьці.

Неабходна праводзіць сыстэматычнае інструктаваньне і заслухоўваньне дакладаў, з папярэднім абглядам работы асобных сельсаветаў. Усе віды масавае работы павіны быць набліжаны да калгасаў і больш буйных паселішч, палажыўшы ў аснову пытаньні калектывізацыі, крытыкі недахопаў у рабоце савецкага апарату, культурнае будаўніцтва і г. д.

Каб разгарнуць крытыку і самакрытыку, якая павінна быць накіравана на выпраўленьне работы сельсаветаў і самаго райвыканкому, барацьбы з бюракратызмам і ажыцьцяўленьне савецкай дэмакратыі, трэба праводзіць справаздачы перад сваімі выбаршчыкамі ў вызначаныя тэрміны, а таксама забясьпечыць выкананьне пастановы ЦВК БССР пра адкліканьне асобных дэпутатаў, якія не апраўдваюць сябе на працы ў саветах.

Акрамя ўсяго гэтага, райвыканком павінен стаць на начале справы разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва, якое, на вялікі жаль, у Копыскім раёне знаходзіцца ў заняпадзе.

Трэба больш актыўных жанчын-дэпутатак і дэлегатак-практыкантак вылучаць на кіруючыя пасады ў райвыканком, сельсаветы, каапэрацыю і іншыя ўстановы і арганізацыі.

Таксама не павінна знаходзіцца на задворках кіраўніцтва як мясцовую, а таксама і дзяржаўнаю прамысловасьцю раёну. У гэтай галіне работы патрэбна зьвяртаць асаблівую ўвагу на забесьпячэньне выкананьня прамысловасьцю прамфінпляну, памятаючы, што за невыкананьне прамфінпляну нясе адказнасьць ня толькі кіраўніцтва заводамі, а ў аднолькавай меры і прэзыдыум райвыканкому.

Трэба зараз-жа пераключыцца на забесьпячэньне за бюджэтнымі сельсаветамі ажыцьцяўленьня імі сваіх бюджэтных правоў.

Ня менш важную ролю, чым і астатнія галіны работы райвыканкому зьяўляецца работа і па ўзмацненьню абароназдольнасьці краіны, таму тут неабходна ўзмацніць вайсковую працу праз ячэйкі Асоавіяхіму і вайсковыя гурткі, уцягваючы ў апошнія ўвесь пераменны склад вайскоўцаў і актыўную частку працоўнага насельніцтва. Для кіраўніцтва гэтай працай павінен скарыстоўвацца начсклад запасу і лепшыя тэрармейцы.

Поплеч з гэтым, ня трэба забываць і пра забесьпячэньне сямей чырвонаармейцаў, былых чырвоных партызан і інвалідаў грамадзянскай вайны неабходнымі матар'яльнымі сродкамі і дапамогаю, а таксама сваячасовым прадстаўленьнем ільгот, якія вызначаны законамі ураду БССР і СССР.

І апошняе,—гэта ўжо пара падумаць і на конт падрыхтоўкі да асеньняй пасеўнай кампаніі.

**С. Лодысеў.**

# За арганізацыю Сакратарыяту РВК

Дзеля таго, каб палепшыць і спрасьціць працу Райвыканкомаў, я прапаную ўтварыць Сакратарыяты апошніх, правёўшы частковую рэарганізацыю. Напрыклад, замест старшага справавода неабходна ўвясьці пасаду тэхсакратара, якім ён фактычна ў сучасны момант і зьяўляецца.

Таксама неабходна пашырыць правы і абавязкі інструктара РВК, даўшы гэткаму назву: інструктар-інфарматар.

Сакрататыят РВК павінен складацца з: сакратара РВК, інструктара-інфарматара і тэхнічнага сакратара.

Сакратарыятам РВК неабходна даць наступныя правы:

а) кіраўніцтва арганізацыйнай працай сельсаветаў;

б) вырашэньне арганізацыйных пытаньняў, прапрацоўка і падрыхтоўка пытаньняў да прэзыдыуму РВК;

в) вырашэньне іншых гаспадарчых пытаньняў, рэгуляваньне штатамі, праца з вылучэнцамі, камісіямі і г. д.

Наогул, сакратарыяты РВК павінны зьявіцца дапаможнікамі прэзыдыумам РВК.

Праца гэтых сакратарыятаў павінна быць пабудавана па тыпу сакратарыятаў АВК (выяўляць з сябе так званы арганізацыйны аддзел).

Тут павінна быць выпрацана палажэньне аб гэтых сакратарыятах і ў хуткім часе ўведзена ў жыцьцё. Гэтым самым мы зьнімем частку нагрузкі з старшыні РВК і загадчыкаў аддзелаў, палепшым абслугоўваньне і вучот наведвальнікаў і г. д.

Аб гэтым павінны выказацца на старонках „Саветы Беларусі“ лепшыя нашы актывістыя—селькоры і лепшыя рацыяналізатары. Тады толькі мы зможам паставіць і добра вырашыць гэта пытаньне, каб новую працу распачаць і паставіць на належную вышыню.

Вяскор **К.**

# Сельскія суды і іх задачы

Вялікі рух па рэконструкцыі народнае гаспадаркі Саюзу ССР, які ўжо разгарнуўся шпаркім тэмпам, патрабуе вялікіх зьмен і ў пабудове ўсяго савецкага апарату, каб зрабіць яго больш моцным, гнуткім і здольным для ажыцьцяўленьня дыктатуры пралетарыяту ў новых умовах жыцьця. Гэтым тлумачыцца выданьне Урадам Саюзу ССР і урадамі саюзных рэспублік цэлага шэрагу законаў па рэканструкцыі органаў улады і суду.

Першапачатковым і асноўным нізавым органам савецкай улады зьяўляецца сельскі савет і вось мы маем ужо новае, толькі што выданае палажэньне пра сельскія саветы БССР, якое значна пашырае кампэтэнцыю і значэньне гэтага органа савецкае ўлады параўнальна з палажэньнем 1925 г. Як відаць з арт. 11 новага палажэньня пра сельскія саветы („Савецкая Беларусь“ № 101—1930 г.) для разгляду і вырашэньня маемасных і зямельных спрэчак, а таксама дробных крымінальных спраў і для ўзмацненьня рэвалюцыйнай законнасьці пры сельскіх саветах організуюцца і дзейнічаюць сельскія суды.

Вышэйпаказаныя сельскія суды будуць арганізаваны і будуць дзейнічаць пры кожным сельскім і мястэчковым савеце на падставе асобнага аб іх палажэньня, якое апублікавана ў Зборы Законаў БССР

1930 г. за № 3, і якое дае паказаньні пра склад сельсуду, пра яго падсуднасьць, пра парадак разгляду спраў і пра меры ўзьдзейнічаньня, якія сельсуд мае права ўжываць супроць правапарушнікаў.

Арганізацыя сельскіх судоў цесна зьвязана з пашырэньнем кампэтэнцыі органаў мясцовай улады і мае сваёй мэтай практычнае ажыцьцяўленьне праграмы Камуністычнай Партыі аб прыцягненьні ўсіх працоўных да выкананьня абавязкаў судзьдзі.

Суд у працоўныя масы і суд, які складаецца выключна з батрацка-бядняцка-серадняцкіх пластоў сельскага насельніцтва,—вось асноўная мэта арганізацыі сельскіх судоў. Гэтыя суды (як і таварыскія суды ў гарадох) павінны паступова падрыхтаваць умовы, пры якіх дзеяньні дзяржаўных судоў, уваходзячых судовую сыстэму (народныя і акруговыя суды, Найвышэйшы Суд) павінны, паступова замяняцца мерамі таварыскага ўплыву на тых грамадзян, якія зьяўляюцца няцьвёрдым і шкодным для працоўных і дзяржавы элемэнтам.

Работа ў сельсудзе ў якасьці яго члена альбо старшыні ёсьць грамадзкая работа, і гэтая работа павінна значна павялічыць самадзейнасьць сельскага насельніцтва.

На разгляд сельскіх судоў перадаюцца найбольш простыя і нескладаныя грамадзянскія, зямельныя і крымінальныя справы з ліку тых, што раней вырашыліся народнымі судамі і зямельнымі камісіямі.

Сельскі суд складаецца з 12 членаў, якія выбіраюцца на выбарчых сходах адначасна з выбарамі членаў адпаведных саветаў. У той-жа час на пленарным пасяджэньні сельскага савету з ліку яго членаў выбіраюцца старшыня сельсуду і яго намесьнік, якія зацьвярджаюцца адпаведным раённым выканаўчым камітэтам. Каб забясьпечыць належны склад сельсуду, закон надае сельскім саветам (пленумам іх) права касаваць выбары старшыні, намесьніка старшыні і членаў сельсуда як па сваёй ініцыятыве, гэтак і па скаргах грамадзян альбо па пратэсту органаў улады ці грамадзкіх арганізацый.

Зусім ясна, што ў склад сельскага суду ня можа быць выбрана асоба, пазбаўленая выбарчых праў. Але і з асоб, супроць якіх, паводле закону нельга зрабіць адводаў, далёка ня ўсякага пажадана выбіраць. Батракі і беднякі зьяўляюцца на сяле сапраўды пралетарскай часткай працоўнага сельскага насельніцтва, таму ў складзе сельсуду і неабходна забясьпечыць большасьць іменна гэтых пластоў вясковага насельніцтва Каб павялічыць грамадзкае значэньне сельсуду пры выбары яго старшыні і членаў, апроч забясьпечаньня складу суду пролетарскім элемэнтам, вельмі пажадана прыцягваць да ўдзелу ў рабоце таксама і жанчын.

Для разгляду спраў сельскі суд выдзяляе кожны раз асобны склад са старшыні суду альбо яго намесьніка і з двох судзьдзяў.

Пры разглядзе падсудных яму спраў сельскі суд павінен ужываць правілы палажэньня пра сельсуды; ніякія фармальнасьці, устаноўленыя для агульных судоў працэсуальнымі кодэксамі, для сельсудоў неабавязковы, і трэба імкнуцца да таго, каб усе справы разглядаліся сельсудамі бяз жадных фармальнасьцяй.

Складу сельсуду ня трэба абгрунтоўваць свае пастановы правіламі тых ці іншых кодэксаў; пры разглядзе спраў судзьдзі павінны скарыстоўваць сваё клясавае пачуцьце.

Мы ўжо казалі, што сельсудам перададзены найбольш нескладаныя справы, якія не патрабуюць спэцыяльных ведаў. З ліку грамадзкіх спраў такімі нескладанымі зьяўляюцца дробныя спрэчкі на суму ня больш 100 руб. Але, калі і дробны іск грунтуецца на якім-небудзь фармальным дакумэнце (вэксале, натарыяльна пасьведчаным дагаворы), а таксама іскі аб аўтарскім праве, аб аплаце за калецтва, працоўныя, альбо іскі, што ўзьнікаюць у зьвязку з ужываньнем кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы,—усе такія іскі, хоць-бы і на дробную суму, непадсудны сельсуду. Гэта ўстаноўлена таму, што ўсе вышэйпаказаныя праваадносіны рэгулююцца спэцыяльнымі кодэксамі і законам і для сельскага суда было-б вельмі цяжка вырашаць такія справы.

З ліку так званых спрэчна-зямельных спраў сельсудам падсудны спрэчкі аб патравах і захопах зямлі працоўнага

карыстаньня, аб перакосах і пераворках і справы аб парушэньні карыстаньня праездамі альбо перавулкамі.

Сельскі суд па сваім сэнсу зьяўляецца судом, разглядаючым спрэчкі паміж пасобнымі грамадзянамі, таму закон і пастанаўляе, што і самыя дробныя спрэчкі не падсудны гэтым судам, калі адной з старон зьяўляецца дзяржаўная ўстанова альбо прадпрыемства, грамадзкая альбо каапэрацыйная арганізацыя.

Што датычыць крымінальных спраў, то сельсуды могуць вырашаць з іх таксама найбольш нескладаныя: аб пабоях, аб паклёпе, аб абразе, самаўпраўстве, а таксама аб хуліганстве, аб зьнішчэньні і псаваньні чужое маемасьці і крадзяжу на суму да 50 р., калі гэтыя дзеяньні зроблены ўпяршыню.

Супроць асоб, на якіх падана скарга, сельскі суд можа ўжываць наступныя меры ўзьдзейнічаньня: а) перасьцярогу, б) выгавар, в) штраф ня больш 25 руб., г) прымусовыя работы на тэрмін да 15-ці дзён без утрыманьня пад вартаю і д) грамадзкае ганьбаваньне. Усе пералічаныя меры вельмі мяккія параўнальна з тымі мерамі, якія ўжываюцца народнымі судамі;—гэта таму, што галоўная задача сельскіх судоў—выхаваўчы ўплыў і на тую асобу, на якую падана скарга, і на тую грамаду, сярод якой гэтая асоба пражывае. Па характару падсудных сельсудам спраў перад імі праходзяць звычайна асобы, супроць якіх зусім дастаткова ўжываць больш мяккія меры ўзьдзейнічаньня. Калі-ж, у паасобных выпадках, сельскі суд знойдзе, што да якога-небудзь правапарушнікз з прычыны яго клясавай шкоднасьці трэба ўжыць больш жорсткія меры, ён мае права перадаць усю справу на разгляд народнага суда.

Прымаючы пад увагу, што большая частка, калі ня ўсе, падсудныя сельскім судам справы носяць бытавы характар, што падсудныя гэтым судам маемасныя спрэчкі ня маюць вялікага значэньня, а правапарушэньні ня маюць значэньня дзеяньняў, вельмі шкодных для дзяржавы і працоўных, закон устанаўляе для ўзбуджэньня ўсіх гэтых спраў кароткі тэрмін даўнасьці: для грамадзянскіх і зямельных спраў—1 год, а для крымінальных—6 месяцаў; значыцца, зусім нельга падаваць, напрыклад, іску ў сельскі суд аб спагнаньні 25 руб. за праданага жарабя, калі ад моманту продажу альбо ад моманту, калі пакупнік абавязаўся уплаціць доўг, зыйшло больш аднаго году; таксама нельга скардзіцца, напрыклад, на абразу словам пасьля 6 месяцаў з таго моманту, як абраза была зроблена. Вышэйпаказаныя даўнасныя тэрміны ўведзены між іншым і ў мэтах зьнішчэньня суцяжніцтва.

Ня ўжываючы звычайных для нарсуда працэсуальных фармальнасьцяй, сельскія суды павінны праводзіць свае пасяджэньні з прыцягненьнем грамадзкасьці. Ніякіх пратаколаў сельсуд складаць не павінен, не дапушчаюцца ў сельсуды і праваабаронцы, але сельсуд павінен разглядаць справы так, каб імі цікавілася-б мясцовае насельніцтва, каб на судзе выявіліся-б адмоўныя стораны жыцьця, каб самы працэс і пастанова суду маглі мець выхаваўчае значэньне для гэтага насельніцтва наогул і для тых грамадзян, якія ўдзельнічалі ў данай справе.

У заключэньне неабходна адзначыць, што пастановы сельскага суда, як суду грамадзкага, маючага спэцыяльныя мэты і задачы, зьяўляюцца канчатковымі і, значыцца, на іх нельга падаваць касацыйных скарг; для гэтых судоў не ўстаноўлена вышэйшай інстанцыі, якая разглядала-б скаргі на іх. Наадварот, як толькі вынесена пастанова сельскага суда, яна зараз-жа і ва ўсякім разе не пазьней за 5 дзён выконваецца. Але, прыдаючы дзейнасьці сельскіх судоў вельмі важнае значэньне, заканадаўца прыймае неабходныя меры да таго, каб даць гэтым судам правільны напрамак, каб вынасімыя гэтымі судамі рашэньні і прысуды былі клясава-вытрыманымі і каб такім чынам сельскія суды сапраўды праводзілі ў жыцьцё рэвалюцыйную законнасьць, як яна разумеецца з клясавага пункту погляду. У гэтых мэтах палажэньнем пра сельскія і местачковыя суды ўстаноўлена, што кожны народны судзьдзя, у раёне дзейнасьці якога маюцца сельскія суды, праводзіць інструктаж і рэвізію гэтых судоў і павінен вельмі ўважліва і дакладна даваць сельсудам паказаньні аб усіх заўважаных пры рэвізіі недахопах іх работы як з тэхніч-

нага боку, так асабліва ў сэнсе правядзеньня клясавай лініі. У тых выпадках, калі народны судзьдзя знойдзе, што якая-небудзь пастанова сельсуду парушае закон альбо парушае інтарэсы працоўных і дзяржавы, ён зараз-жа прыпыняе выкананьне такой пастановы, а ўсю справу ўносіць на вырашэньне народнага суду. Такі парадак не парушае агульнага правіла аб канчатковасьці рашэньняў і прысудаў сельсуда, бо паказаны наглядны парадак можа ўжывацца толькі ў выключных выпадках, калі судом вынесена клясава нявытрыманая пастанова, і, апроч таго, народны суд, у які нарсудзьдзя ўнёс справу, не пераглядае пастановы сельскага суда, а разглядае гэтую справу зноў і выносіць сваё самастойнае рашэньне ў агульным парадку.

**Б. Ватацы.**

---

# За кантроль ва ўсіх зьвеньнях савецкага апарату

**(У парадку абгаварэньня)**

Кантроль зьяўляецца адным з найбольш слабых мейсц усёй сыстэмы работы нашага апарату. Мы ня зробім памылкі, калі скажам, што праверка фактычнага выкананьня дырэктыў амаль усюды адсутнічае. Па паасобных установах няма гэтай праверкі, як у адносінах ніжэйшых па пэрыфэрыі устаноў, так і самаправеркі выкананьня пастаноў і дырэктыў вышэйстаячых органаў улады. Кантроль, на жаль, у практыцы нашай работы носіць характар ня сыстэмы, а выпадковасьці. У большасьці савецкіх устаноў няма, нават, дакладнага вучоту дадзеных гэтай установай на пэрыфэрыю дырэктыў, няма таксама і вучоту атрыманых ёй дырэктыў ад вышэйшых органаў.

Асноўнымі стрыжанямі работы цэнтральных устаноў павінны быць: плянаваньне, інспэктаваньне і кантроль за фактычным выкананьнем. У той час, як справа плянаваньня і інспэктаваньня за апошнія часы ўжо ў значнай меры наладжана, справа кантролю стаіць на мёртвай кропцы.

Нарады, напрыклад, па пытаньнях плянаваньня склікаюцца досыць частыя як у саюзным маштабе, так і па паасобных саюзных і аўтаномных рэспубліках, краявых і акруговых выканкомах. Ці часта склікаюцца ў нас такія нарады для абмеркаваньня і праверкі фактычнага выкананьня пастаноў і дырэктыў урадавых органаў?—здаецца, што гэта амаль зусім не практыкуецца. Некаторы час таму назад (у канцы 1929 г.), у відзе выключэньня, давялося чытаць аб аднэй такой спробе скліканьня нарады ў ЗСФСР па пытаньні выкананьня і праверцы выкананьня пастаноў вышэйшых органаў улады; ня ведаю, чым гэта спроба кончылася. У астатніх мясцовасьцях ніхто нідзе, здаецца, нават і не падумаў узьняць такога важнейшага пытаньня.

На пасяджэньнях прэзыдыумаў выканаўчых камітэтаў і саветаў заслухоўваюцца і вырашаюцца ўсялякага роду пытаньні, але ні адзін выканаўчы камітэт ні савет ніколі не паставіў на сваім пасяджэньні даклад аб праверцы выкананьня ніжэйшымі органамі яго дырэктыў. Зразумела, ня прыходзіцца, нават, і спадзявацца, каб савет ці выканком спэцыяльна праверыў на сваім пасяджэньні выкананьне ў межах яго тэрыторыі пастаноў і дырэктыў вышэйшых органаў улады. На пасяджэньнях прэзыдыумаў і пленумаў выканкомаў і саветаў заслухоўваюцца даклады розных органаў, часта без папярэдняга іх абсьледаваньня. Калі-ж і робіцца абсьледаваньне адпаведнай установы, дык толькі з пункту гледжаньня агульнай праверкі становішча ўстановы. Няма такога выпадку, каб інструктар раней чым праверыць дзейнасьць якой-небудзь установы, скажам, напрыклад, земаддзелу, папярэдне падабраў усе дырэктывы вышэйшых органаў улады, як саюзных, так і рэспубліканскіх, а потым ужо і адпаведнага выканаўчага камітэту і савету за апошнія хоць-бы адзін ці два гады па данай галіне работы, вывучыў іх, і ў працэсе азнаямленьня з дзейнасьцю ўстановы праверыў-бы фактычнае выкананьне апошняй усіх паказаных пастаноў і дырэктыў. Між тым такія праверкі,

спэцыяльна зробленыя, былі-б вельмі карысны. Чаму нельга заслухаць прэзыдыуму акруговага выканаўчага камітэту на сваім пасяджэньні спэцыяльны даклад сакратара АВК аб выкананьні ў межах акругі ўсіх дырэктыў Прэзыдыуму ЦВК, СНК БССР і іншых урадавых органаў за пэўны пэрыяд часу, або, напрыклад, такі даклад: „аб выкананьні па лініі акруговага зямельнага аддзелу (ці іншых) усіх дырэктыў вышэйшых органаў улады, а таксама і акруговага выканаўчага камітэту за год“. Зразумела, раней чым заслухоўваць такі даклад, інструктар АВК павінен добра азнаёміцца з усімі дырэктывамі вышэйшых органаў улады, а таксама і АВК, якія тычацца адпаведнай установы. Азнаёміцца з пастановамі і даручэньнямі вышэйшых органаў улады можна па „Збору Законаў“, „Бюлетэнях СНК БССР“, газэтах „Известия“, „Савецкая Беларусь“. Астатнія-ж паасобныя даручэньні ўжо трэба запроста адысківаць у самой установе, добра праверыўшы па журналах усе ўваходзячыя паперы. З паказанай мэтай карысна было б рабіць таксама і спэцыяльныя выезды на месцы. Апошнімі пастановамі партыйных і ўрадавых органаў па пытаньнях рэарганізацыі савецкага апарату і спрашчэньні кіраўніцтва падкрэсьлівалася неабходнасьць узмацненьня інспэкцыйных функцый з боку вышэйшых органаў улады. У нас, на жаль, інспэкцыйныя функцыі рэдка калі ўвязваюцца з кантролем *за фактычным* выкананьнем дырэктыў. Па маёй думцы ў мэтах падкрэсьліваньня гэтай задачы, трэба было-б арганізацыйныя часткі пры акрвыканкомах перайменаваць у арганізацыйна-кантрольныя, а інструктароў РВК перайменаваць у інструктароў-кантралёраў з ускладаньнем на арганізацыйна-кантрольныя часткі АВК і інструктароў-кантралёраў РВК побач з інспэктаваньнем адпаведных устаноў і ніжэйшых органаў—таксама ажыцьцяўленьне кантролю *за фактычным* выкананьнем усіх пастаноў, так і паасобных даручэньняў вышэйшых органаў, так і самага выканаўчага камітэту.

Прыходзіцца канстатаваць, што ўсе гэтыя даручэньні выконваюцца вельмі павольна і ня рэдка зусім у другі бок. За справу кантролю трэба рашуча прыняцца і належным чынам наладзіць яе. Там, дзе няма кантролю, няма, па-першае, упэўненасьці ў фактычным выкананьні даручэньня, па-другое, невядома ў якім кірунку выканана даручэньне—якасны яго бок. Ня лепш, чымся ў выканаўчых камітэтах і саветах, пастаўлен кантроль і ў цэнтральных установах. Цэнтральныя ўстановы (наркаматы, трэсты і інш) ня зусім чотка і ў вызначаныя тэрміны выконваюць даручэньні вышэйшых урадавых органаў, мала займаюцца самаправеркай у гэтых адносінах. Няма ў іх таксама добра наладжанага кантролю за выкананьнем іх дырэктыў па пэрыфэрыі. Практыка штодзённай працы паказвае, што той орган, які не займаецца самаправеркай у сэнсе выкананьня дырэктыў вышэйшых органаў,—ён таксама ня мае ніякага вучоту і нагляду за выкананьнем яго дырэктыў ніжэйшымі, яму не падпарадкаванымі, установамі і адзінкамі. Адно, як правіла, выцякае з другога. Мне здаецца, што трэба з усёй катэгорычнасьцю паставіць пытаньне аб арганізацыі ў межах кожнай цэнтральнай установы (магчыма не прыбягаючы, нават, да павялічэньня штату), спэцыяльных кантрольных бюро, ці нешта іншае ў гэтым родзе. Ёсьць жа, напрыклад, у НКЗеме земплян, чаму-жа там ня мець і маленькае кантрольнае бюро? Бязумоўна, што паміж пытаньнямі пляну і кантролю нельга правесьці пэўнай аналёгіі, але хто-небудзь павінен таксама мець і *сталы сыстэматычны нагляд за фактычным* выкананьнем.

У кожным наркамаце ці іншай цэнтральнай установе для выкананьня паасобных галін работы існуе інстытут, так званых, функцыянэраў — адказных выканаўцаў. Такім чынам, выходзіць, што кожны функцыянэр павінен ажыцьцяўляць кантроль у межах свайго маленькага вучастку работы. Гэта зусім бясспрэчна і ніхто з іх ня можа і не павінен зьнімаць з функцыянэраў адказнасьць за кантроль (які да рэчы дрэнна праводзіцца), але ў кожным наркамаце ёсьць такія галіны работы, як раз найбольш важныя і адказныя, дзе драбіць кантролю па паасобных функцыянэрах ніяк немагчыма. У якасьці кантралёра тут павінен выступіць наркамат ці цэнтральная ўстанова ў цэлым. Часта важнейшая

пастанова Ураду, якая ахватвае галоўнейшыя галіны дзейнасьці ўстановы, дробіцца для выкананьня па паасобных функцыянэрах. Вынікаў-жа выкананьня гэтай пастановы ў цэлым,—выкананьня не фармальнага, а *фактычнага* ўжо ў яе канчатковым жывым праламленьні на мясцох, ніхто ня робіць. Вось чаму, павінны быць утвораны ў межах наркаматаў і інш. цэнтральных устаноў (на першы час хоць-бы ў больш буйных) спэцыяльныя кантрольныя бюро. Кантрольныя бюро па магчымасьці павінны быць створаны без дастатковага павялічэньня штату, шляхам некаторага ўнутранага пераразьмеркаваньня абавязкаў. У некаторых-жа паасобных выпадках можна пайсьці на мінімальнае павялічэньне штату.

Гэта першая палова пытаньня, так званая апаратная.

Другой часткай пытаньня, бязумоўна, ня менш (калі ня больш) важнай зьяўляецца масавая праверка з боку шырокіх працоўных мас выкананьня ўсіх пастаноў і дырэктыў вышэйшых органаў улады.

Гэта апошняе ёсьць пытаньне вялікай палітычнай важнасьці і яно павінна зьявіцца прадметам асобнай тэмы.

**Лібман.**

---

# Твар камітэтаў СТУ Меншчыны

Перавыбарчая кампанія камітэтаў Сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі па нашай акрузе прайшла больш-менш здавальняюча. Самы ход перавыбараў праводзіўся пад лёзунгам удзелу КСТУ у калектывізацыі батрацтва і бядняцкасераднsocks гаспадарак, ачышчэньня нізавых органаў камітэтаў ад кулацкіх і непрацаздольных элемэнтаў, а таксама уцягненьня ў практычную працу батракоў і лепшай часткі сераднякоў. Дзякуючы гэтаму новыя склады камітэтаў СТУ акругі абраны, у пераважнай сваёй частцы, з беднаты; павялічыўся процант батрацтва, калгасьнікаў і серадняцкага актыву у складзе камітэтаў.

Калі-ж мы падойдзем да агульнае ацэнкі работы камітэтаў, то тут будзем мець ня зусім станоўчыя вынікі, а менавіта: камітэты, як масава-грамадзкія арганізацыі ў вёсцы, яшчэ і да гэтага часу ня сумелі перабудаваць сваёй працы ў напрамку актыўнага удзелу у калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак; камітэты не зьвяртаюць дастатковае увагі на больш шырокае уцягненьне ў калгасы батракоў, а таксама і на аказаньне апошнім матар'яльнай дапамогі.

Грамадзкія формы работы камітэтаў разгорнуты слаба, як і слаба наладжана справаздачнасьць камітэтаў перад працоўным насельніцтвам і не прыцягнуты ў дастатковай ступені да практычнае працы батрацка бядняцкі і серадняцкі актыў.

Нашы камітэты чамусьці лічуць аказаньне матар'яльнай дапамогі культурнабытавым установам (ясьлям, школам і хатам-чытальням), другараднай справай чаму гэтыя установы амаль што ніякай практычнай дапамогі з боку камітэтаў не адчуваюць і не атрымоўваюць. Былі такія выпадкі, што школы зьвярталіся за дапамогаю да камітэтаў у справе вывазцы дроў для школы, а апошнія адказвалі: „Гэта ня наша справа займацца вывазкаю дроў для школ. Гэтым павінен займацца сельсавет, а ў крайнім выпадку—райвыканком, бо ён на гэта мае сродкі“.

Грамадзкі кантроль над працаю камітэтаў, іх прадпрыемствамі і пракатнымі пунктамі, знаходзіцца ў дрэнным становішчы, у выніку чаго даюцца шырокія мажлівасьці некаторым працаўнікам зусім быць безадказнымі перад грамадзкасьцю і пролетарскім судом і рабіць розныя злачынствы і растраты. А выпадкі растрат і злоўжываньняў з боку асобных працаўнікоў маюцца. Праўда, гэтымі справамі ужо займаюцца адпаведныя сьледчыя органы, якія, трэба быць упэўненым, высьвятляць злачынцаў і прыцягнуць да крымінальнае адказнасьці.

Вядома, значная частка віны за слабасьць працы камітэтаў падае на райвыканкомы і, у першую чаргу, на сельскія саветы, якія не зьвяртаюць належнай

увагі на нармальны ход працы камітэтаў і на кіраваньне імі. Горш гэтага. Райвыканкомы, а таксама і сельскія саветы не адчуваюць адказнасьці за працу і дзейнасьці КСТУ, а таму і не аказваюць адпаведнае дапамогі ў іх практычнай працы. Камітэты прадстаўлены, у поўным сэнсе гэтага слова, самі сабе.

І гэта усё ў такі час, калі шпаркім тэмпам ідзе калгаснае будаўніцтва, калі ліквідуецца кулацтва як кляса.

Камітэты узаемадапамогі далей працаваць так не павінны. Яны павінны будуць як мага найхутчэй перабудаваць усю сваю працу у напрамку практычнага удзелу ў справе калектывізацыі вёскі, падначаліць усе свае матар'яльныя сродкі, вытворчасьць і арганізацыйныя мерапрыемствы да ўмоў скарэйшага выкананьня дырэктыў партыі і савецкае улады па калектывізацыі вёскі, зьвярнуўшы асаблівую увагу на шырокае ўцягненьне ў калгасы батрацтва, адначасна не паслабляючы працы ў напрамку аказаньня дапамогі і такім гаспадаркам, якія не ўвайшлі у калгасы, гэта індывідуальным бядняцкім і маламоцным серадняцкім гаспадаркам.

Трэба будзе ужыць захады і да таго, каб рэвізыйныя камісіі, якія маюцца і бязьдзейнічаюць пры камітэтах, запрацавалі, а не лічыліся толькі на паперы, бо калі рэўкамісіі не запрацуюць як сьлед быць, то для растратчыкаў і наогул для злачынцаў застаецца шырокае поле дзейнасьці для розных злоўжываньняў.

Каб аздаравіць працу камітэтаў і прыцягнуць да практычнае працы батрацкія і бядняцка-серадняцкія масы, нашы камітэты павінны будуць наладзіць сталую і сыстэматычную справаздачнасьць перад сваімі сябрамі, арганізаваўшы навокал працы КСТУ дзелавую крытыку і самакрытыку, што дасьць мажлівасьць зьнішчыць маючыяся недахопы ў працы камітэтаў.

На дапамогу камітэтам па перабудове іх працы павінны будуць прыйсьці самі райвыканкомы, а таксама і сельскія саветы акругі. Без дапамогі райвыканкомаў, сельсаветаў і ўсёй савецкай грамадзкасьці—нельга чакаць добрых вынікаў ў працы камітэтаў узаемадапамогі Меншчыны.

С. Л-сеў.

---

# Па Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік

*(Рознае)*

### Арганізацыя Інстытуту Савецкага будаўніцтва і права пры Закаўкаскім ЦВК

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Закаўкаскай СФСР, у мэтах забясьпечаньня тэарэтычнага вывучэньня і навуковага абагуленьня практычнага вопыту ЗСФСР у галіне савецкага будаўніцтва і права пад пунктам пагляду марксыцка-ленінскай тэорыі дзяржавы і права, а таксама аб'яднаньня і кіраўніцтва дзейнасьцю мясцовых навуковых установ па савецкаму будаўніцтву і праву, пастанавіў: арганізаваць Інстытут савецкага будаўніцтва і права пры Закаўкаскім ЦВК.

### Сэкцыі новага быту пры Гарсаветах

У шэрагу гарадоў Саюзу ССР ёсьць прыклады арганізацыі сэкцый новага быту пры гарадзкіх саветах. Пры Ленінградзкім Гарсавеце такой сэкцыі няма, але там пры сэкцыі Камунальнай гаспадаркі створан сэктар новага быту. У задачы сэктару ўваходзіць дапамога і выпраўленьне дзейнасьці установ, абслугоўваючых рабочага ў быту, зьнішчэньне недахопаў у рабоце ясьляў, ачагоў, прачашных і сталовак. Сэктар новага быту ўжо разгарнуў сваю дзейнасьць, згодна вызначанага пляну. Сэктарам праводзіцца агляд заводаў, якія арыхтоўваюць прачашныя прыналежнасьці, прапрацоўваецца пытаньне электрыфікацыі быту, намячаюцца мерапрыемствы па арганізацыі грамадзкага харчаваньня ў Жактах і інш.

### Аб узмацненьні ў Туркменскай ССР работы членаў ЦВК, якія працуюць на вытворчасьці, у нізавым савецкім апараце і сельскай гаспадарцы

На аб'яднаным пасяджэньні Прэзыдыуму ЦВК і СНК Туркменскай ССР вызначан шэраг мерапрыемстваў па уз-

мацненьні работы членаў і кандыдатаў у члены ЦВК, якія працуюць на вытворчасьці, у нізавым савецкім апараце і сельскай гаспадарцы. Прэзыдыум ЦВК і СНК Туркменскай ССР прызналі неабходным пасылку членам і кандыдатам у члены ЦВК не радзей трох раз у год інструкцыйных лістоў аб важнейшых рашэньнях Партыі і ўраду. Члены ЦВК абавязаны даваць Прэзыдыуму ЦВК справаздачы аб сваёй дзейнасьці. Пры абмеркаваньні на пасяджэньнях Прэзыдыуму ЦВК дакладаў мясцовых выканкомаў і саветаў на гэтыя пасяджэньні запрашаюцца члены ЦВК адпаведных мясцовасьцяй. СНК даручана распрацаваць шэраг дадатковых мерапрыемстваў па ўцягненьні членаў ЦВК у савецкае будаўніцтва: прыцягненьне на пасяджэньні усіх цэнтральных органаў, трэстаў; арганізацыя дзяжурстваў членаў ЦВК на буйнейшых прадпрыемствах, пэрыядычнае скліканьне нарад і інш.

### Арганізацыя фонду дапамогі дзецям батракоў на Украіне

ЦВК і СНК Украінскай ССР, у мэтах палепшаньня справы забясьпечаньня дзецям батракоў і непаўналетнім батракам фактычнай магчымасьці наведваць школы, пастанавілі утварыць пры Народным Камісарыяце Асьветы УССР цэнтральны фонд дапамогі дзецям батракоў. Гэты фонд складаецца з: асыгнаваньняў па дзяржаўнаму бюджэту, грашовых паступленьняў ад Цэнтральных органаў, каапэрацыйных і грамадзкіх арганізацый і іншых паступленьняў. Цэнтральны фонд дапамогі дзецям батракоў прызначаецца для выдачы стыпэндый і утрыманьня інтэрнатаў для непаўналетніх батракоў і дзяцей батракоў, якія навучаюцца ў працоўных школах і школах сялянскай моладзі.

### Аб гарадзкіх фондах ліквідацыі няпісьменнасьці ў Украінскай ССР

ЦВК і СНК Украінскай ССР пастанавілі утварыць пры гарадзкіх саветах акруговых гарадоў гарадзкія фонды ліквідацыі няпісьменнасьці. Гэтыя фонды ствараюцца з спэцыяльных асыгнаваньняў па гарадзкому бюджэту, штрафных сум за парушэньне пастаноў аб абавязковай ліквідацыі няпісьменнасьці, паступленьняў па акруговаму гораду спэцыяльнага абкладаньня непрацоўнага насельніцтва, на ліквідацыю няпісьменнасьці і інш.

### Пабудова дамоў селяніна ў Ленінградзкай вобласьці

Прэзыдыум Ленінградзкага вобласнага выканкому зацьвердзіў пяцігадовы плян будаўніцтва ў вобласьці дамоў селяніна. Каштоўнасьць гэтага будаўніцтва складзе суму у 1.708 тысяч рублёў. Акрвыканкомам даручана прапрацаваць пляны разгортваньня сеткі дамоў селяніна ў кожнай акрузе ў паасобку.

### Парадак здачы ў арэнду зямельных угодзьдзяў у Ленінградзкай вобласьці

Прэзыдыум Ленінградзкага воблвыканкому забараніў здачу ў арэнду зямельных угодзьдзяў працоўнага карыстаньня у тых зямельных вобчаствах, дзе процант калектывізацыі складае ня менш 50%. Выключэньні дапушчаюцца толькі у адносінах бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, якія пастрадалі ад стыхійных бядот. У астатніх зямельных вобчаствах арэнда зямлі дазваляецца з захаваньнем існуючага законадаўства. Здача ў арэнду зямлі кулацкім гаспадаркам зусім забаронена.

### Аб сталіцы Туркменскай ССР

Прэзыдыум ЦВК Туркменскай ССР пастанавіў перавесьці сталіцу Туркменскай ССР з Ашхабада ў Чарджуй. Пастаноўка гэтага пытаньня ў саюзных органах дапасоўваецца да моманту прыбыцьця Туркменскай дэлегацыі на XVI зьезд УсеКП(б).

### Аб падрыхтоўцы кадраў савецкіх работнікаў у Ленінградзкай вобласьці

Прэзыдыум Ленінградзкага воблвыканкому зацьвердзіў плян курсаў перападрыхтоўкі нізавых савецкіх працаўнікоў. Курсы будуць праводзіцца пры абласным выканкоме, акруговых і раённых выканаўчых камітэтах. На правядзеньне курсаў пры вобласным выканкоме асыгнавана 100.000 руб. Акруговым і раённым выканаўчым камітэтам даручана ахапіць курсамі ня менш 50 проц. складу асноўных работнікаў сельскіх саветаў, а таксама падрыхтаваць рахунковых работні-

каў для сельскіх саветаў з самастойным бюджэтам. Для аб'яднаньня ўсёй работы па падрыхтоўцы кадраў і распаўсюджваньні ведаў па савецкаму будаўніцтву сярод шырокіх колаў савецкага актыву, Аргаддзелу даручана прыступіць да стварэньня Дома Савецкага будаўніцтва.

### Жыльлёвыя льготы для дзяржаўных пэнсіянэраў на Украіне

ЦВК і СНК Украінскай ССР пастанавілі замацаваць за дзяржаўнымі пэнсіянэрамі ўсе жыльлёвыя льготы, якімі паказаныя пэнсіянэры карысталіся па свайму апошняму месцы службы да назначэньня ім пэнсіі.

### Аб льготах сем'ям асоб, прызваных у РСЧА ў РСФСР

Прэзыдыум Усерасійск. ЦВК устанавіў, што ў выпадку прызыву ў Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію і пераменны склад тэрытарыяльных часьцей асоб, якія карыстаюцца льготамі па сямейна-маемасным становішчы, члены сямей гэтых асоб маюць права на дзяржаўнае забясьпечаньне. Незалежна ад дзяржаўнага забясьпечаньня, члены гэтых-жа сямей, якія пражываюць у сельскіх мясцовасьцях, могуць атрымоўваць у залежнасьці ад іх матар'яльнага становішча, у першую чаргу, розныя віды дапамогі ад сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

## Агляд важнейшых пастаноў Прэзыдыуму ЦВК БССР

### Зьмены ў інструкцыі аб выбарах у саветы БССР

Арт. 32 інструкцыі аб выбарах у саветы БССР, зацьверджанай Прэзыдыумам ЦВК 26 лістапада 1927 г., вызначае тыя катэгорыі асоб, якія пазбаўляюцца выбарчага права за іх сучаснае або мінулае сацыяльнае становішча і дзейнасьць. Пункт „а" гэтага 32 артыкулу, вызначаючы катэгорыі землябробаў - эксплёататараў, якія пазбаўляюцца выбарчага права, ва ўвазе дае наступнае вызначэньне працоўнай гаспадаркі: „гаспадарка, якая ўжывае наёмную працу, ня траціць характару працоўнай пры наяўнасьці дзьвёх умоў: 1) абавязковага ўдзелу ў штодзённай рабоце гаспадаркі наяўных працаздольных яе членаў; 2) падсобнага характару наёмнай працы". Прымаючы пад увагу, што такое вызначэньне працоўнай гаспадаркі ў сучасны момант страціла сваё значэньне і ахапляе ня толькі працоўныя але і эксплёататарскія гаспадаркі, члены якіх хаця і працуюць самі на гаспадарцы, але ўжываюць наёмную працу ў значным разьмеры, прычым устанавіць мяжу „падсобнага характару" наёмнай працы незаўсёды магчыма, —Прэзыдыум ЦВК БССР 6 чэрвеня г. г. скасаваў паказаную ўвагу да п. „а" 32 арт. інструкцыі.

Адначасова з гэтым Прэзыдыум ЦВК БССР, шляхам адпаведнай зьмены п. „б" арт. 34 інструкцыі, вызначыў разьмеры ўжываньня наёмнай працы ў сельскай гаспадарцы, якое ня цягне за сабой абавязковага пазбаўленьня выбарчага права, іменна: наём у час галоўных палявых работ рабочай сілы да 50 рабочых дзён.

### Аб судабудаўніцтве

16 чэрвеня г. г. Прэзыдыум ЦВК прыняў пастанову па дакладу Вярхоўнага Суду БССР аб дзейнасьці. Адзначыўшы станоўчыя і адмоўныя бакі ў рабоце судовых органаў БССР і, паміж іншым, грамознасьць структуры судовых органаў і, дзякуючы гэтаму, маруднасьць праходжаньня судовых спраў, Прэзыдыум ЦВК БССР сярод іншых даручэньняў і пастаноў прыняў наступнае:

1) Дазволіў Вярхоўнаму суду ў Віцебскай акрузе, у якасьці вопыту, арганізаваць інстытут грамадзкіх абаронцаў з ліку рабочых, батракоў і бяднейшага сялянства і ўвясьці намесьнікаў народных судзьдзяў з нарзасядацеляў, з правам разгляду імі судовых спраў у якасьці старшынствуючых.

2) Улічваючы палітычную ролю таварыскіх сельскіх судоў, як вопыт масавай перадачы функцый дзяржаўных органаў грамадзкасьці, Прэзыдыум ЦВК даручыў зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганіза-

цыю, інструктаваньне і ажыўленьне дзейнасьці гэтых судоў, вывучаць іх працу, у прыватнасьці, шляхам прымацаваньня часткі гэтых судоў непасрэдна да Вярхоўнага Суду. У канцы 1930 г. Вярхоўны Суд павінен зрабіць на Прэзыдыуме ЦВК даклад аб выніках гадовай працы таварыскіх і сельскіх (местачковых) судоў.

3) Вярхоўнаму Суду даручана вывучыць пытаньне аб неабходнасьці перабудовы форм абароны у судзе і ў 3-х месячны тэрмін падаць свае прапановы ў Прэзыдыум ЦВК.

4) НК РСІ разам з НКЮ даручана вывучыць пытаньне аб рэарганізацыі судовай сыстэмы БССР у напрамку яе спрашчэньня і рацыяналізацыі, а таксама наданьня ёй гнуткасьці.

5) НК Юстыцыі даручыць у 3-х месячны тэрмін пераглядзець працэсуальныя нормы, а таксама ўнесьці ў Прэзыдыум ЦВК праэкты тых неабходмых зьмен у законадаўстве, якія выклікаюцца сучасным пэрыядам рэканструкцыі прамысловасьці сельскай гаспадаркі.

### Аб пасьведчаньнях был. чырвонагвардзейцам і был. чырвоным партызанам

13 студзеня 1930 г. ЦВК і СНК Саюзу ССР прынялі пастанову „Аб льготах былым чырвонагвардзейцам і чырвоным партызанам і іх сем'ям“. Устанаўляючы цэлы шэраг вельмі значных льгот і перавагі был. чырвонагвардзейцам і чырвоным партызанам, гэты саюзны закон вызначыў, што кулакі і ўсе грамадзяне, якія пазбаўлены выбарчага права, ня маюць права на гэтыя льготы. Паказаны саюзны закон устанавіў, што парадак выдачы пасьведчаньняў был. чырвонагвардзейцам і чырвоным партызанам і іх сем'ям аб праве іх на льготы вызначаецца законадаўствам саюзных рэспублік. На гэтай падставе ЦВК і СНК БССР і выдалі 16 чэрвеня 1930 г. пастанову пра парадак выдачы былым чырвонагвардзейцам і чырвоным партызанам і іх сем'ям пасьведчаньняў аб праве іх на устаноўленыя льготы. Згодна гэтай пастановы пры гарадзкіх саветах і райвыканкомах павінны быць утвораны асобныя камісіі для падрыхтоўкі спраў па выдачы пасьведчаньняў.

У сельскіх мясцовасьцях для атрыманьня пасьведчаньня на льготы трэба падаць заяву ў сельскі савет, які і вывешвае ў памяшканьні савету сьпіс асоб, падаўшых заявы аб выдачы пасьведчаньняў і потым, не пазьней як праз 15 дзён, накіроўвае іх у райвыканком са сваім заключэньнем і усімі паступіўшымі ў сельсавет матар'яламі. Для атрыманьня пасьведчаньня ў гарадох заявы падаюцца ў гарсавет.

Спэцыяльныя камісіі пры гарадзкіх саветах і райвыканкомах самі не вырашаюць справы, а толькі, дасканала праверыўшы ўсе акалічнасьці справы і сабраўшы розныя матар'ялы, накіроўваюць іх у акруговы выканаўчы камітэт, які канчаткова вырашае і выдае пасьведчаньні на атрыманьне льгот. Пасьведчаньні будуць выдавацца ва ўсёй БССР аднолькавыя па форме, устаноўленай народным камісарыятам сацыяльнага забясьпечаньня.

### Аб перавыбарах сельскіх саветаў і аб скліканьні раённых зьездаў саветаў

На тэй падставе, што восеньню 1930 г. будзе праводзіцца чарговая кампанія перавыбараў саветаў, Прэзыдыум ЦВК БССР 22 чэрвеня г. г. прызнаў немэтазгодным далейшы працяг перавыбараў сельскіх саветаў, якія былі спынены у сувязі з правядзеньнем веснавой пасяўной кампаніі, а таксама скліканьне раённых зьездаў саветаў. АВК дазволена праводзіць зараз раённыя зьезды саветаў толькі ў тых раёнах, дзе склад раённых выканаўчых камітэтаў цалкам зьмяніўся.

---

Выдае Прэзыдыум ЦВК БССР Рэдактар—Рэдкалегія

Менск. Друкарня імя Сталіна. Заказ № 2097. 3.000 экз. Галоўлітбел № 1428.